16 мая 2014 | № 19 (388)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Нелегітымныя рэферэндумы

стар. 4



# Паразумеліся?

**Распавядаючы пра двухбаковую сустрэчу з расійскім прэзідэнтам падчас размовы з людзьмі 9 мая, беларускі кіраўнік ганарыўся. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што дамогся свайго ад Пуціна.**



Сяргей ПУЛЬША

**Паводле Аляксандра Рыгоравіча, бакі дамовіліся аб пастаўках нафты і паэтапнай адмене выплаты экспартных пошлін на нафтапрадукты. Што тычыцца нафты, то Лукашэнка заявіў, што на бліжэйшыя 10 год яе аб'ёмы для перапрацоўкі будуць складаць 23 мільёны тон штогод, і гэтага «для нас дастаткова для таго, каб загрузіць нафтаперапрацоўчыя заводы».**

Самае балючае пытанне — адмена экспартнай пошліны на нафтапрадукты. Па сціплых падліках, яна складае 3–4 млрд. долараў штогод. «Мы паступова будзем іх здымаць. У будучым годзе прыкладна палова застаецца ў Беларусі, а з 2016 года, я мяркую, мы вырашым і другую частку. Прыкладна 1,5 мільярда долараў у наступным годзе застанецца ў бюджэце Беларусі. Каля гэтага мы пералічым у бюджэт Расіі. А на 2016 год, як я сказаў, мы вернемся да гэтага пытання, і я ўпэўнены, што мы цалкам на працягу двух гадоў здымем гэтыя пошліны і будзем цывілізавана гандляваць», — цытуе кіраўніка краіны БЕЛТА.

Вырашана пытанне грузаперавозак, пытанне продажу сабраных у Беларусі аўтамабіляў, а таксама пытанне расійскага крэдыту ў 2 мільярда долараў, які мы, па словах Аляксандра Рыгоравіча, пачнём атрымліваць ужо ў маі. Праўда, пакуль не зразумела, што гэта за крэдыт: магчыма, гэта толькі пацверджанне снежаньскіх дамоўленасцяў, у межах якіх транш у 450 мільёнаў долараў ужо атрыманы.

На словах выглядае ўсё прыгожа: Лукашэнка зачытвае Пуціну свае патрабаванні, а Пуцін толькі ківае галавой: «Так, згодзен, і на гэта згодзен». Але ж за прыгожыя вочы, такія прэферэнцыі не выдаюцца. Лукашэнка павінен быў паабяцаць нешта ўзамен. Пакуль відавочна — адзінае, што ён паабяцаў, — не блакаваць падпісанне 29 мая ў Астане дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе.

Відавочна і тое, чаго Лукашэнка не абяцаў і пакуль не збіраецца рабіць: ён не збіраецца ўхваляць дзеянні Расіі ў адносінах да Украіны.

Ужо 12 мая, прымаючы сакратара Савета бяспекі Расіі Мікалая Патрушава ў Мінску, Лукашэнка заявіў: «Няхай яны (украінцы — аўт.) ладзяць сваё жыццё так, як яны лічаць патрэбным. Але каб не стваралі праблем сваім суседзям, гэта галоўнае… Галоўнае — гэта тое, каб Украіна засталася Украінай, але не стала базай Паўночнаатлантычнага альянсу ў нашых межах… Мы гэта не ўтойваем. Гэта важна і для Расіі, і для Беларусі. Мы хочам з імі гандляваць, жыць. Жылі нармальна, мы хочам і далей так жыць».

То бок, выбар будучыні Украіны — па-ранейшаму справа саміх украінцаў, Беларусь не збіраецца нікога «вучыць, як жыць», і Расіі таго не раіць.

Дык што ж такога паабяцаў Пуціну Аляксандр Лукашэнка ўзамен на амаль беспрэцэдэнтныя льготы?

Па меркаванні палітолага Валера Карбалевіча, і аднаго абяцання падпісаць дамову аб ЕАЭС хапае вышэй даху. Справа ў тым, што Беларусь для Расіі на сённяшні момант значна важнейшая, чым Расія для Беларусі. «Для кіраўніцтва Расіі праект ЕАЭС вельмі важны, — тлумачыць Карбалевіч. — У той час, як Расія з-за ўкраінскага канфлікту апынулася ў міжнародной ізаляцыі, Пуціну трэба давесці расійскаму народу, што ў яго ёсць хаўруснікі і партнёры. Расійскае грамадства на фоне ўкраінскага канфлікту і міжнароднай ізаляцыі, патрабуе знешнепалітычных поспехаў. ЕАЭС — гэта той «прарыў», які можа пацвердзіць расіянам слушнасць палітычнага курсу Крамля. У такіх умовах палітычная вага, і, адпаведна, «кошт» праекта ЕАЭС значна ўзрастае».




**Пуцін у любы момант можа зняпраўдзіць словы Аляксандра Рыгоравіча**

Для таго, каб атрымаць «прарыў на знешнепалітычным фронце», чаго так прагне расійскае грамадства, Пуцін і мог пагадзіцца з патрабаваннямі Аляксандра Рыгоравіча. «На фоне халоднай вайны Расіі і Захаду палітычная лаяльнасць каштуе даражэй», — мяркуе Карбалевіч.

Пры гэтым палітолаг падкрэслівае: Аляксандр Лукашэнка для Масквы вельмі важны яшчэ і тым, што дэманструе сваё саюзніцтва не толькі на словах, але і на справе. «Гэта і галасаванне ў ААН з падтрымкай Расіі, і з'яўленне ў Беларусі расійскай базы ваенных самалётаў, што ва ўмовах канфлікту з Украінай каштуе вельмі дорага», — зазначыў ён. З улікам усіх гэтых акалічнасцяў Пуцін пагадзіўся на той кошт, які і выставіў яму саюзнік.

Такім чынам, па меркаванні Карбалевіча, Пуцін праплаціў свой «унутрырасійскі піяр знешнепалітычных поспехаў», які разлічаны выключна на расійскае грамадства.

Ёсць і адно «але». Як мы ўсе ведаем, Лукашэнка — гаспадар свайго слова. Сам даў, сам узяў назад. Так што, можа быць, беларускі кіраўнік у сваёй прамове проста выдаваў пажаданае за дзейснае. Можа быць, з Пуціным ён абмеркаваў толькі магчымыя шляхі вырашэння «нафтава-пошліннага» пытання, а ў прамове 9 мая выдаў «прапановы», як «дасягнутыя дамоўленасці». «Часцяком бывала і тое, што пасля дамоўленасцяў «тэт-а-тэт» бакі па-рознаму інтэрпрэтавалі, што ж там было на самай справе. Так што пакуль да канца не відавочна, што паабяцала Расія і што будзе на самай справе», — зазначыў Карбалевіч.

Карацей, трэба быць асцярожней з высновамі да тае пары, пакуль Беларусь не падпіша з Расіяй нафтавы баланс на 10 гадоў, і мы, па словах Лукашэнкі, не «вырашым канчаткова» пытанне з нафтавымі пошлінамі. Бо пакуль Пуцін у любы момант можа зняпраўдзіць словы Аляксандра Рыгоравіча.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Права на мову

**Сяргей Гоўша спрабуе дамагчыся ад банка свайго права на карыстанне беларускай мовай.**

Праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў ліст з Адкрытага акцыянернага таварыства «Ашчадны банк «Беларусбанк», філіял № 802, за подпісам дырэктара А.Ф. Навіцкага, у якім паведамляецца, што банк разгледзеў яго зварот па пытанні выкарыстання беларускай мовы пры абслугоўванні кліентаў.

Найперш банкаўскі чыноўнік падрабязна распавёў Сяргею Гоўшы пра працу «Беларусбанка» аб развіцці і ўдасканаленні адзінай разліковай і інфармацыйнай прасторы (АРІП) для аплаты паслуг. А што тычыцца беларускай мовы пры абслугоўванні кліентаў, то спадар Навіцкі паведаміў у сваім адказе, што, «…кіруючыся нарматыўна-прававой базай Рэспублікі Беларусь, банк мае права пры аказанні паслуг насельніцтву выкарыстоўваць адну з дзяржаўных моваў РБ — беларускую ці рускую».

— Але артыкул 50 Канстытуцыі гарантуе, што кожны грамадзянін мае права карыстацца роднай моваю, выбіраць мову зносін. У рэальных жыцці ў нас усё выглядае зусім інакш. Я не магу адправіць ці надрукаваць якую-небудзь банкаўскую паперку на беларускай мове, бо супрацоўнікі банка скардзяцца на нястачу беларускага шрыфту ў кампутарах. Аб гэтым я і пісаў кіраўніцтву банка і спадзяваўся, што яго ім установяць, і можна будзе свабодна карыстацца роднай моваю для аплаты паслуг. Але замест канкрэтнай працы па пашырэнні беларускай мовы ў банкаўскай сферы мне даслалі звычайную адпіску, — паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

### БАБРУЙСК. Пікет салідарнасці не дазволілі

**Каардынатар бабруйскай суполкі БХД Таісія Кабанчук паведаміла, што атрымала адмову з гарвыканкама на правядзенне пікета.**

Пікет планаваўся для падтрымкі бабруйчаніна Яўгена Васьковіча, на якога аказваецца моцны ціск адміністрацыі магілёўскай турмы №4. Хлопца перавялі ў адзіночную камеру, на яго ідзе ціск з боку сукамернікаў таксама. Пасля гэтага актывісты БХД вырашылі падаць заяўкі на правядзенні пікетаў салідарнасці ў некалькіх гарадах, у тым ліку ў Бабруйску.

«Мы атрымалі самы стандартны адказ-адмову ад намесніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Маркачова, — распавядае Таісія Кабанчук. — Усе гэтыя адпіскі — як пад капірку. У паперы гаварыцца, напрыклад, што наша заяўка не адпавядае артыкулу № 2 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», што не ўказалі парадак аплаты паслуг на медыцынскае абслугоўванне і прыборку тэрыторыі. Таксама Маркачоў палічыў за парушэнне інфармацыю ў СМІ, некалькі выданняў напісалі пра запланаваны пікет, і ўсе яны пералічаныя ў паперы».

«Нават калі б не было папярэдніх пунктаў, нам бы ўсё роўна адмовілі ў правядзенні пікета на стадыёне фабрыкі «Славянка». Чыноўнік паведаміў, што акурат на 14 траўня там запланавана правядзенне спаборніцтваў па футболе, вось такое супадзенне», — тлумачыць Таісія Кабанчук.

Мясцовыя актывісты плануюць па-ранейшаму падтрымліваць Яўгена Васьковіча лістамі, паштоўкамі, дапамагаць яго сваякам.

### БРЭСТ. Міліцыя зацікавілася эсдэкамі

**Праваахоўныя органы склалі пратакол апытання на старшыню Брэсцкай абласной арганізацыі БСДП (Грамада) Ігара Маслоўскага.**

Як паведаміў сам Маслоўскі, міліцыянты завіталі ў партыйны офіс і пажадалі атрымаць тлумачэнні адносна таго, як брэсцкая суполка БСДП (Грамада) ладзіла інфармацыйную кампанію напярэдадні 1 мая і віншавала жыхароў горада.

«Я патлумачыў, што мы дзейнічалі ў рамках беларускага заканадаўства і адзначалі Першамай, які застаецца ў нашай краіне дзяржаўным святам, — паведаміў Ігар Маслоўскі. — Але мы таксама адзначалі яго як Міжнародны дзень салідарнасці працоўных у барацьбе за свае правы. Тое, што з гэтай нагоды распаўсюджвалі віншаванні і партыйныя бюлетэні, таксама не забаронена заканадаўствам».

Ігар Маслоўскі лічыць дзіўнай сітуацыю, калі праваахоўныя органы шукаюць нейкія парушэнні пасля таго, як мінула амаль два тыдні пасля падзей. Ён таксама нагадаў, што гарадскія ўлады сёлета забаранілі сацыял-дэмакратам ладзіць у Брэсце першамайскую дэманстрацыю, спаслаўшыся на тое, што дазвол на масавае мерапрыемства ў гэты дзень ужо атрымала Брэсцкае абласное аб'яднанне прафсаюзаў.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі сайта spring96.org**

# Еўрапейскі секулярызм у «Доме Фішара»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**12 мая Войцех Пшыбыльскі выступіў з лекцыяй «Бог даў, Бог узяў. Рэлігія і секулярызм у Еўропе» ў Мінскім антыкафэ «Дом Фішара».**

Сустрэча адбылася пры падтрымцы «Еўрапейскага кафэ: адкрытай прасторы Еўропы», «Free Speech Partnership» і пры супрацоўніцтве з «International Visegrad Fund». Гутарка ішла на англійскай мове з перакладам на рускую.

Войцех Пшыбыльскі — галоўны рэдактар часопісаў «Res Publica Nowa» і «Visegrad Insight». У сваёй доктарскай дысертацыі ён апісвае каталіцызм як палітычную ідэалогію XIX стагоддзя. Але ў лекцыі гістарычны аспект Пшыбыльскі амаль не кранаў. Навуковец казаў пра тое, як рэлігія ўплывае на палітыку ў краінах Еўропы. Адна з галоўных высноў, якую можна было зрабіць з лекцыі, заключаецца ў тым, што рэлігія — гэта сродак збліжэння «вярхоў» і «нізоў», агульная кропка дотыку палітыкаў і народу.

Пшыбыльскі фактычна зруйнаваў стэрэатып пра амаль стопрацэнтную рэлігійнай палякаў і прыхільнасць да каталіцызму. Калі ў 1990-я гады шчырымі каталікамі сябе лічылі 96–97% палякаў, то на сёння гэтая лічба апусцілася да 60%. Па меркаванні лектара, гэта адбылося праз актыўную міграцыю, існаванне празмернай свабоды меркаванняў у Польшчы і састарэласць поглядаў лідараў краіны.

Пасля лекцыі запалілася дыскусія, у якой мелі месца пытанні наконт саміх дэфініцый «рэлігія» і «секулярызм», рэмаркі аб функцыянаванні розных канфесій у еўрапейскіх краінах. Пшыбыльскаму паступіла нават пытанне пра тое, колькі разоў ён спавядаўся за год. На што лектар адказаў, што ў дэмакратычных краінах такое не пытаюць.

Спрэчкі не пакінулі без увагі і рэлігійную сітуацыю ў нашай краіне. У прыватнасці, прадметам дыскусіі стала прапанова Лукашэнкі аб стварэнні царкоўнай дзяржаўнай ідэалогіі. Такую прапанову лектар пракаментаваў наступным чынам: «Грамадства б адрэагавала на гэта двухбакова — і сумна, і смешна».

Лекцыя «Бог даў, Бог узяў. Рэлігія і секулярызм у Еўропе» планавалася не адзін год. Пры тым, па словах Пшыбыльскага, яна не будзе апошняй. У планы навукоўца ўваходзіць правядзенне яшчэ шэрагу лекцый, і не толькі на тэму рэлігіі.

# Звальненні на «Белшыне»

**У Акцыянерным таварыстве «Белшына» пачаліся масавыя скарачэнні рабочых.**

Пад скарачэнне трапілі і актывісты Беларускага незалежнага прафсаюза, у тым ліку — старшыня першаснай прафсаюзнай арганізацыі Артур Міхалап.

Намеснік старшыні Беларускага незалежнага прафсаюза Сяргей Антусевіч каментуе сітуацыю:

— Усё робіцца ў нас так, каб гэта не было фармальна звязана ні з якімі прафсаюзамі. Прынамсі, зараз звальняюць кіраўніцтва прафсаюзнай арганізацыі на «Белшыне». Абіраюць гэты шлях таму, што, насамрэч, тыя заробкі, якія прапаноўваюць на прадпрыемстве, гэта не тыя грошы, за якія можна зараз пражыць. Тым больш прыйшло маладое кіраўніцтва, вельмі актыўнае. На тарыфным пагадненні, па калектыўнай дамове, якія існуюць у Беларускім незалежным прафсаюзе, проста так кіраўніцтва арганізацыі звольніць нельга, ёсць пэўныя гарантыі.

Нагадаем, пра тое, што з «Белшыны» будзе звольненая трацiна работнікаў, яшчэ ў жнiўнi мiнулага года паведамiў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

**Беларускае Радыё Рацыя**

# Іртутнае срэбра жыцця

**Выйшла чарговая кніга Алеся Бяляцкага «Іртутнае срэбра жыцця» пра падзеі 2010–2011 гадоў.**

Кніга напісана Алесем Бяляцкім падчас ягонага зняволення: з верасня 2012 па чэрвень 2013 года. Выданне ўключае ў сябе лісты з успамінамі, рэфлексіямі і развагамі, тут апісаны і звычайныя працоўныя будні, падзеі, што папярэднічалі арышту праваабаронцы, міжнародныя паездкі. Назва кнігі даволі вобразная.

«Пісаць пра падзеі 2010–2011 гадоў і лёгка, бо яны, здаецца, добра-такі адбіліся ў маёй памяці, і цяжка, бо ўсё ж час няўмольна зьядае сьвежыню эмоцыяў, сотні і тысячы дробных дэталяў, якія ствараюць шматфарбную карціну жыцьця. Набягаюць новыя падзеі, новыя ўражаньні, якія адцясняюць і заціраюць старыя», — напісаў Алесь Бяляцкі ў адным з лістоў.

Укладальніца выдання праваабаронца Алена Лапцёнак у прадмове да кнігі адзначае: «Прайшло ўжо больш за два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага, і палову вызначанага судом тэрміну зняволення ён ужо адбыў. Але нават гэты час у пэўнай ступені не аказаўся для яго страчаным дарма, і, як чалавек з моцным унураным стрыжнем, Алесь здолеў скарыстаць яго і разбіць аднастайнасць турэмнага побыту творчымі задумамі і іх плённай рэалізацыяй».

Гэта ўжо другая кніга Алеся Бяляцкага, якая выйшла за час ягонага зняволення. Першая — «Асьвечаныя Беларушчынай», зараз яшчэ рыхтуецца да выдання зборнік ягоных публіцыстычных твораў «Халоднае крыло Радзімы».

Бліжэйшым часам Праваабарончы цэнтр «Вясна» запросіць на прэзентацыю кнігі, дзе яе магчыма будзе атрымаць.

**Паводле spring96.org**

# На авансцэне Еўразіі

Кацярына КОЛБ

**30 мая — 1 чэрвеня ў Варшаве адбудзецца міжнародная канферэнцыя «Беларусь на авансцэне Еўразіі: паміж Масквой і Кіевам».**

Канферэнцыя арганізавана Інстытутам грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі Універсітэта Лазарскага. Гэта ўжо шостая канферэнцыя Цэнтра беларускіх даследаванняў Інстытута, прысвечаная праблемам беларускага грамадства. Аналітыкі, грамадскія дзеячы і журналісты з Беларусі, краінаў Еўропы і ЗША будуць разважаць пра магчымасці развіцця грамадзянскай супольнасці ў Беларусі праз прызму падзеяў ва Украіне.

У канферэнцыі бяруць удзел Андраш Рац (Венгерскі інстытут замежных спраў, Венгрыя), Мікола Рабчук (палітолаг, Украіна), Пэр Андэрс Рудлінг (Лундскі ўніверсітэт, Швецыя) Антоні Мірановіч (Беластоцкі ўніверсітэт, Польшча), а таксама шэраг беларускіх гісторыкаў, журналістаў, палітолагаў, эканамістаў і грамадскіх актывістаў.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі выступяць суддзя Ежы Стэмпень, дырэктар Інстытута грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі Універсітэта Лазарскага, былы старшыня Канстытуцыйнага Трыбунала Польшчы; Роджэр Патоцкі, дырэктар еўрапейскіх праграм Нацыянальнага фонду ў падтрымку дэмакратыі (ЗША).

Падчас канферэнцыі яе ўдзельнікі і шматлікія госці абмяркуюць шэраг праблем развіцця беларускага грамадства, у тым ліку на тле падзей ва Украіне. Адна з секцый канферэнцыі так і называецца: «Паблізу ўкраінскага вулкану».

Таксама ў праграме канферэнцыі вызначаны секцыі «Нацыя «на ростанях»: міфы і стэрэатыпы ў беларускім грамадстве», «Грамадзянская супольнасць — крыніца перамен».

У апошні дзень канферэнцыі, 1 чэрвеня, усе жадаючыя змогуць прыняць удзел у дыскусіі «Беларускае грамадства: спячка ці трансфармацыя?».

**Інфармацыйная падтрымка: газета «Новы час»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Было б на што скардзіцца…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Заўсёды знойдуцца людзі, якія будуць скардзіцца абы на што, нават калі яны ў раю. Улады ў дошку разбіваліся, каб правесці Чэмпіянат свету па хакеі на належным узроўні. На беспрэцэдэнтныя крокі ішлі. І ўсё роўна камусьці чагосьці не хапае.**




На тыдні Аляксандр Лукашэнка, прымаючы даверчыя граматы ад паслоў замежных дзяржаў, выказаў меркаванне, што Чэмпіянат свету па хакеі дазволіць замежнікам скласці пра Беларусь уласнае непрадузятае меркаванне. «Для нас было важна, каб тыя людзі, якія ў нас не былі, а фанаты, аматары хакея — гэта актыўныя людзі, прыехалі сюды і на свае вочы паглядзелі нашу краіну», — сказаў Лукашэнка. Па яго словах, пра Беларусь напісана «вельмі шмат дрэннага». А таму была задача, «каб вы самі аб'ектыўна паглядзелі нашу краіну».

«Ужо поўная дэмакратыя: што хочуць (хакейныя заўзятары падчас ЧС у Мінску), тое і п'юць, дзе хочуць, там і п'юць. Міліцыя ўжо іх дадому адвозіць, калі трэба», — сказаў беларускі правадыр.

Канешне, наконт «што хочуць» Лукашэнка пажартаваў — на час ЧС па хакеі з мінскіх крамаў выдалена ўсё імпартнае піва. Мы пісалі ў пазамінулым нумары, што з 1 мая ўводзіцца паўгадовае ліцэнзаванне на імпарт пеннага напою з краінаў па-за межамі Мытнага саюза, але ж выдалены ўвесь імпарт — нават «мытнасаюзаўская» расійская «Балтыка»! Прычым, журналісты так і не здолелі ўцямна разабрацца, хто ж аддаў такі загад: у Мінгарвыканкаме кажуць, што нічога падобнага ніякім гандлёвым кропкам не казалі. У Міністэрстве гандлю таксама адзначаюць: загада прыбіраць імпартнае піва з паліцаў крамаў не было, была толькі «рэкамендацыя рэкламаваць айчыннае піва». І ўсё.

Самае смешнае, што ў Чэмпіянату па хакеі ў афіцыйных спонсарах два піўных брэнда: лакальны айчынны «Рэчыцкае» і міжнародны спонсар — расійская «Охота». Хоць абодва і належаць адной кампаніі — «Хайнекен», усё адно: спонсарская «Охота» ў мінскіх крамах не прадаецца!

Затое, як мы і прадбачылі, у афігенным плюсе апынулася «Лідскае». Няп'ючы аўтар гэтых радкоў, «прашарсціўшы» мінскія крамы, пабачыў поўную адсутнасць «нулёвай Балтыкі» і безалкагольнай «Абалоні». «Лідская нулёвачка» стала фактычна манапалістам у гэтым сегменце рынка.

Але хай з ім, з півам. Пэўна, яго трэба ўвогуле забараніць. На тыдні была апрылюднена чарговая справаздача Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, і мы даведаліся, што беларуская нацыя не співаецца — яна ўжо спілася. Беларусь лідзіруе ў рэйтынгу краін па ўзроўні спажывання алкаголю.

Паводле дадзеных СААЗ, кожны жыхар краіны ва ўзросце 15 гадоў і старэй штогод выпівае ў сярэднім 17,5 літра чыстага спірту. Пры гэтым на кожнага сярэднестатыстычнага мужчыну прыходзіцца 27,5 літра, на жанчыну — 9,1 літра. У гэтым сумным рэйтынгу мы апярэдзілі малдаван (16,8 літра ў год), літоўцаў (15,4 літра) і нават рускіх, дзе кожны жыхар, старэйшы за 15 гадоў, выпівае ў сярэднім 15,1 літра чыстага спірту штогод.

Між тым, тая ж СААЗ вызначае крытычны ўзровень ужывання алкаголю — 8 літраў спірту ў пераліку на кожнага жыхара краіны ва ўзросце ад 15 гадоў. У выпадку перавышэння дадзенай рысы адбываецца паступовая дэградацыя нацыі. Мы перавысілі гэты паказчык больш чым удвая!

Падчас чэмпіянату сорамна за некаторых калегаў. Напрыклад, журналіст Ігар Брагін у інтэрнэце «граміць» арганізатараў: усё яму не так. Складаная працэдура дагляду — пропуску на матчы, прэс-цэнтр размешчаны далёка ад арэны, няма скрыняў для захоўвання фотатэхнікі журналістаў, марудны і нестабільны інтэрнэт. І гэта яшчэ не ўсё. «Рэпрэсіі ўнутры арэны — вось самы балючы ўдар па прафесіяналах», — піша Брагін.

І што ж ён называе рэпрэсіямі? Першае: служба бяспекі забараніла вешаць камеры пад дах палацаў, дзе праходзяць гульні, і другое: для здымак Лукашэнкі фотакораў «сагналі ў адну кропку, на якой, па-добраму, цесна будзе і семярым».

Я ўяўляю, як рагоча, чытаючы пра такія «рэпрэсіі», напрыклад, журналіст Андрэй Пачобут, які тры месяцы адсядзеў у гарадзенскай турме, пакуль чакаў суда за «паклёп на прэзідэнта». Альбо журналісткі Ірына Халіп і Наталля Радзіна, якія прайшлі праз «амерыканку» — турму КДБ. Ці той жа фатограф Антон Сурапін, якога ў той жа «амерыканцы» трымалі ні за што — крымінальная справа ў яго адносінах так і не разглядалася. Ці Мікола Маркевіч, узгадваючы сваю «хімію»... Вось гэта рэпрэсіі, а тое, пра што піша Брагін, — так, дробныя хібы, нават не непрыемнасці.

А тое, што «інтэрнэт марудны», ды «складаная працэдура дагляду», дык гэта ўвогуле недарэчна. Паспрабаваў бы ён патрапіць у звычайны беларускі суд на якую-небудзь «гучную справу», дзе няма не тое што інтэрнэту — мабільная сувязь адсутнічае, дык працэдура дагляду на хакеі яму б паказалася драбязой.

Трэба не толькі на хакей хадзіць — трэба хоць крышачку даведацца аб краіне, у якую ты едзеш. Тады б асэнсоўваў, што Беларусь у рэйтынгу свабоды прэсы знаходзіцца на 157-м месцы сярод існуючых 180-ці. Што прапанаваны журналістам інтэрнэт ад «Белтэлекама» ў Беларусі называюць па-руску «Елетелеком». Што ў любой кропцы мабільнай сувязі па прад'яўленні пашпарту можна набыць больш стабільную 3G-картку нават з мадэмам, і не залежаць ад ласкі арганізатараў. І ўвогуле, гледзячы па фотцы, спадар Брагін — даволі сталы чалавек. Мог бы і ўзгадаць, як працавалі журналісты, калі такой штукі, як «інтэрнэт», увогуле не было.

Ну і, канешне, на фоне расійска-ўкраінскага канфлікту нас працягваюць радаваць родныя парламентары. Яны працягваюць шукаць альтэрнатыву адпачынку ў Крыме, і ў іх гэта няблага атрымліваецца. Раней мы паведамлялі, што з 1 чэрвеня можна без віз ездзіць у Турцыю, а зараз Ніжняя палата беларускага парламента ратыфікавала пагадненне паміж Беларуссю і Казахстанам аб парадку знаходжання грамадзян дзвюх краін. Дакумент дазваляе грамадзянам Беларусі знаходзіцца на тэрыторыі Казахстану без рэгістрацыі на працягу 30 дзён.

Кумыс у даёнцы, скокі на вярблюдах, бойкі баявых бараноў, бешбармак у медным тазіку, прыгажуні з нязвыклымі рысамі твару — усё гэта зараз і без рэгістрацыі!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алесь Бяляцкі



**Палітзняволены праваабаронца Алесь Бяляцкі за сваю кнігу «Асвечаныя беларушчынай» атрымаў прэмію Алеся Адамовіча.**

За Бяляцкага ўзнагароду атрымлівала ягоная жонка Наталля Пінчук.

Сам Бяляцкі ведае пра атрыманне прэміі і напісаў адпаведны зварот з гэтай нагоды. Пінчук зачытала: «Кніга займела пэўны падтэкст, бо пытанні, якія ў ёй уздымаюцца, важныя для перспектывы існавання нашага народу. Беларусь ёсць там, дзе ёсць беларуская свядомасць, культура і мова. Калі нашыя суседзі такім чынам вызначаюць для сябе «русский мир», то мы вызначаем «беларускі свет» і адстаім яго».

Наталля Адамовіч, дачка Алеся Адамовіча, у гонар якога была заснаваная прэмія, заявіла, што Бяляцкі стаў 34-м лаўрэатам гэтай узнагароды. «Раней кнігі спальвалі, а цяпер — новая форма: забарона на ўвоз», — адзначыла Наталля Адамовіч, гаворачы пра важнасць кнігі.

Нагадаем, 3 ліпеня 2013 года на літоўска-беларускай мяжы ў праваабаронцы Тацяны Равякі мытнікі канфіскавалі 40 асобнікаў кнігі «Асвечаныя беларушчынай». На падставе заключэння экспертаў суд зрабіў выснову, што кніга ўтрымлівае матэрыялы, якія могуць нанесці шкоду эканамічным і палітычным інтарэсам краіны, і пастанавіў вывезці кнігі назад у Літву.

## Таццяна Бандарчук



**Былую дырэктарку Белдзяржцыркa Таццяне Бандарчук Аляксандр Лукашэнка ў другі раз вызваліў ад крымінальнай адказнасці.**

Нагадаем, аб узбуджэнні Генпракуратурай па матэрыялах Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС і КДК крымінальнай справы ў дачыненні да Бандарчук было абвешчана 7 чэрвеня 2013 года. Намеснік генпракурора Аляксей Стук удакладніў, што вывучаліся пытанні, звязаныя з выкарыстаннем Бандарчук аўтарскага права, бясплатнай рэалізацыяй квіткоў на некаторыя выступы, страхаваннем замежных артыстаў, выплатамі беларускім артыстам, якія знаходзяцца на гастролях.

У канцы мінулага года Бандарчук у ходзе следства пакрыла шкоду і падала хадайніцтва аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці. У Следчым камітэце пацвердзілі, што «нанесены матэрыяльны ўрон пакрыты ў ходзе следства ў поўным аб'ёме». Канчатковае абвінавачванне было прад'яўлена ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

Зараз стала вядома, што Аляксандр Лукашэнка памілаваў Таццяну Бандарчук. Ужо другі раз — першы раз гэта адбылося ў 2000 годзе, калі Бандарчук падазравалі ў атрыманні хабару.

## Мітрапаліт Павел



**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Павел пагутарыў з журналістамі. Гутарка атрымалася вельмі шчырай і «пра ўсё».**

Падчас гутаркі Мітрапаліт прызнаўся: ён любіць прыгожы спорт, але супраць звязкі спорту і камерцыі. «Я ніколі не куплю латарэйныя білеты. Калі мне прапануюць — купі білет і дапамажы дзецям, я адказваю, што з дзяржавай у азартныя гульні не гуляю», — заявіў Мітрапаліт.

Ён таксама адзначыў, што беларусы павінны размаўляць і маліцца на роднай мове. «Я думаю, гэта правільна, у Беларусі, безумоўна, асноўнай мовай павінна быць беларуская», — падкрэсліў Мітрапаліт. Сам экзарх беларускую мову разумее, але пакуль не размаўляе. Але набыў дапаможнік па беларускай мове, аднак часу на падрабязнае знаёмства, да прыкладу, з беларускай літаратурай у яго не шмат.

«Усе місіянеры вывучалі мясцовую мову, потым рабілі на яе пераклад Евангелля, малітвaслова і прапаведавалі, гэта нармальна», — запэўніў Мітрапаліт. І дадаў, што, калі праваслаўныя вернікі Беларусі захочуць маліцца на роднай мове, то ўладыка падтрымае гэтую ідэю. «Сталі прапаноўваць раннюю літургію на адной мове, познюю — на іншай. Мы гэтаму таксама перашкаджаць не будзем», — сказаў праваслаўны іерарх.






# Нелегітымныя рэферэндумы

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Канстытуцыя не стала галоўным дзеючым законам краіны. Яе «перапісвалі», насамрэч, тройчы. Але пытанне, наколькі законна гэта рабілася? Адзначым, што ніводзін з праведзеных у Беларусі рэферэндумаў не быў легітымным. Нават першы — рэферэндум 1995 года.**

## Рэферэндум — 1995

З ініцыятывай правядзення рэферэндуму выступіў Аляксандр Лукашэнка. Ён прапанаваў на ўсенароднае абмеркаванне чатыры пытанні. Ці згодныя вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай? Ці падтрымліваеце вы прапанову аб усталяванні новых дзяржаўнага сцяга і дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? Ці падтрымліваеце вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, скіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй? Ці згодныя вы з неабходнасцю ўнясення зменаў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?

Ужо ад пачатку фармулёўкі пытанняў былі незаконнымі. Яны супярэчылі Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі (прэамбуле і артыкулам 1, 2 і 3), Канстытуцыі (прэамбуле, артыкулам 17 і 78), Закону «Аб усенародным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» (арт. 3). Першае і другое пытанні груба парушалі «неад'емнае права беларускага народа на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, гарантыі існавання беларускай культуры і мовы». Нельга было выносіць на рэферэндум пытанне аб мове і аб нацыянальных дзяржаўных сімвалах.

Пытанне аб адабрэнні прарасійскай палітыкі супярэчыць суверэннай нацыянальнай дзяржаўнасці. Акрамя таго, яно парушае міжнародныя абавязальніцтвы Рэспублікі Беларусь.

Фармулёўка чацвёртага пытання аб прадастаўленні прэзідэнту права спыніць паўнамоцтвы парламента «ў выпадках сістэматычнага або грубага парушэння ім Канстытуцыі» ідзе ў разрэз з нормай Дэкларацыі аб суверэнітэце, згодна з якой толькі Вярхоўны Савет мае права выступаць ад імя беларускага народа, а таксама з шэрагам палажэнняў Канстытуцыі.

Гэты рэферэндум быў прызначаны і з парушэннем працэдуры. 11 красавіка 1995 года Вярхоўны Савет 12-га склікання прыступіў да разгляду прапановы Лукашэнкі, супраць якой выступілі дэпутаты ад БНФ. У выніку ВС не падтрымаў ініцыятыву кіраўніка дзяржавы. Лукашэнка заявіў, што прыпыніць дзейнасць парламента і ўсё адно правядзе рэферэндум. У знак пратэсту дэпутаты ад БНФ абвясцілі галадоўку ў зале пасяджэнняў парламента. Уначы з 11 на 12 красавіка ў парламент уварваліся людзі ў масках, збілі і выкінулі адтуль парламентарoў. 13 красавіка 1995 года ВС шляхам паўторнага галасавання прыняў пастанову аб прызначэнні рэферэндуму. Аднак паўторнае галасаванне па працэдуры не дапускалася.

Больш за тое, па Канстытуцыі забаранялася ўносіць змены і дапаўненні ў Канстытуцыю (пытанне №4) у апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў парламента. У той перыяд рэферэндум наогул не мог быць прызначаны!

Такім чынам, рэферэндум 1995 года быў незаконным. Усе дзеянні, скіраваныя на рэалізацыю пастаўленых на рэферэндуме пытанняў, варта прызнаць злоўжываннем уладай і гвалтам у дачыненні да беларускага народа.

## Рэферэндум — 1996

Праз дэпутацкае лобі ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання Лукашэнка дамогся прыняцця рашэння аб прызначэнні рэферэндуму. Лукашэнка прапанаваў: перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў; прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменамі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі), прапанаванымі Лукашэнкам. А таксама адказаць на пытанні: Ці выступаеце вы за свабодныя, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі? Ці падтрымліваеце вы адмену смяротнага пакарання?

Былі яшчэ і пытанні ад парламента, але на іх мы спынiмся не будзем.

Пытанне аб пераносе Дня незалежнасці на 3 ліпеня было ўвогуле недарэчным, бо супярэчыла рэчаіснасці. Вядома, што Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі была прынятая 27 ліпеня, і падвяргаць сумневу гэты факт проста нельга.

Безумоўна, галоўным было пытанне аб прыняцці Канстытуцыі Беларусі «са зменамі і дапаўненнямі (новай рэдакцыі Канстытуцыі)». Для большасці суддзяў КС было зразумела, што Лукашэнка прапануе на рэферэндум новую Канстытуцыю — і тым самым адмяняе дзеючую Канстытуцыю. Аднак з-за супрацьстаяння ў складзе суда прыняць прынцыповае рашэнне па гэтым пытанні не ўдалося. У выніку КС прызнаў, што «папраўкі» не могуць выносіцца на абавязковы рэферэндум, і, адпаведна, не могуць быць уключаны ў тэкст Канстытуцыі пасля іх прыняцця.

Больш таго, пытанне пра Канстытуцыю не магло быць вынесена на рэферэндум, паколькі на яго нельга было даць адназначны адказ. Цяжка нават зразумець, за што прапанавалася галасаваць: за змены і дапаўненні ў Канстытуцыю, за новую рэдакцыю Канстытуцыі або за новую Канстытуцыю?

Пытанне аб куплі і продажу зямлі было сфармулявана правакацыйна, бо адказ на яго чаканы. Продаж зямлі «без абмежаванняў» супярэчыць інтарэсам народа, які з'яўляецца ўласнікам усіх рэсурсаў і багаццяў на сваёй тэрыторыі.

І нават пытанне аб адмене смяротнага пакарання было складаным для разумення. Што такое адмена? Мараторый, невыкананне пакарання, пажыццёвае зняволенне? У сувязі з гэтым яно таксама не магло выносіцца на рэферэндум.

На падставе рашэння Канстытуцыйнага суда ад 4 лістапада дэпутаты парламента зрабілі галасаванне пра Канстытуцыю «рэкамендацыйным». Лукашэнка не пагадзіўся з рашэннем КС і «адмяніў» яго (указам ад 7 лістапада 1996 года №459). Ён запатрабаваў ад органаў улады, у тым ліку Цэнтрвыбаркама, праводзіць абавязковы рэферэндум па пытанні пра змены ў Канстытуцыю. Старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар на прэс-канферэнцыі 14 лістапада 1996 года выказаў свой пратэст, і быў вызвалены ад пасады прэзідэнцкім указам. На яго месца Лукашэнка прызначыў Лідзію Ярмошыну. Будынак Цэнтрвыбаркама быў заблакаваны людзьмі ў «форме», якія не прапускалі ў яго нікога да падвядзення вынікаў рэферэндуму.

З 27 лістапада 1996 года «новая рэдакцыя Канстытуцыі» была ўведзена ў дзеянне. Легітымныя органы ўлады (Вярхоўны Савет, Кантрольная палата, Канстытуцыйны суд) былі незаконна распушчаны.

Спецкамісія Вярхоўнага Савета на чале з Ганчаром кваліфікавала гэта як захоп дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам.

## Рэферэндум — 2004

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года ўлада стала пытанне падаўжэння тэрміну паўнамоцтваў Лукашэнкі. Асноўнай перашкодай з'яўлялася палажэнне артыкула 81 Канстытуцыі, згодна з якім адна і тая ж асоба не магла быць прэзідэнтам больш за два тэрміны. Трэба было зноў мяняць Канстытуцыю.

Чарговы рэферэндум быў абвешчаны прэзідэнцкім указам ад 7 верасня 2004 года №431 (раней прызначэнне плебісцыту было выключна прэрагатывай парламента). На абмеркаванне выносілася адно, але вельмі аб'ёмнае пытанне: «Ці дазваляеце вы першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А.Р. удзельнічаць у якасці кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у выбарах прэзідэнта і ці прымаеце частку першую артыкула 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у наступнай рэдакцыі: «Прэзідэнт абіраецца на пяць гадоў непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры таемным галасаванні»?

Указ уступіў у сілу на наступны дзень пасля яго выдання, калі ўжо ішла кампанія па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Рэферэндум пайшоў «у дадатак» да выбараў, якія адбыліся 17 кастрычніка.

Але такі парадак прызначэння рэферэндуму не адпавядае артыкулу 74 нават «новай Канстытуцыі». Згодна з часткай 3 гэтага артыкула, дата правядзення рэферэндуму прызначаецца не пазней за тры месяцы з дня выдання ўказа прэзідэнта аб прызначэнні рэферэндуму.

Калі прытрымлівацца літары Канстытуцыі, то бачна, што на рэферэндум могуць выносіцца «важнейшыя пытанні» дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Між тым, пастаўленае пытанне адлюстроўвае праблему аднаго грамадзяніна — Аляксандра Лукашэнкі, які да гэтага двойчы прыносіў прысягу на вернасць Канстытуцыі.

На рэферэндум ставілася пытанне, непасрэдна звязанае з удзелам у прэзідэнцкіх выбарах і наступным выбраннем на пасаду Лукашэнкі. Між тым, у адпаведнасці з часткай 2 артыкула 112 Выбарчага кодэкса «на рэспубліканскі рэферэндум не могуць выносіцца пытанні... звязаныя з абраннем і вызваленнем ад пасады прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Уключэнне ў бюлетэнь для галасавання пытання, у фармулёўцы якога захоўваюцца, па сутнасці, два розных па зместу і сэнсу пытання (аб дазволе Лукашэнку балатавацца і аб «папраўцы» у Канстытуцыю), таксама забараняецца Выбарчым кодэксам. Згодна з ім, «пытанне, якое выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум, павінна быць сфармулявана... выразна і ясна з тым, каб на яго быў магчымы адназначны адказ».

Нягледзячы на парушэнне парадку прызначэння рэферэндуму, недапушчальнасць пытання, пастаўленага на галасаванне, грубыя парушэнні заканадаўства пры галасаванні, рэферэндум быў прызнаны адбыўшымся. Па яго выніках былі ўнесены змены ў артыкул 81 «новай Канстытуцыі», і ў 2006 годзе Лукашэнка зноў балатаваўся кандыдатам у прэзідэнты.

## Рэзюме

Як бачым, усе рэспубліканскія рэферэндумы насілі неканстытуцыйны, незаконны і недэмакратычны характар. З юрыдычнага пункту гледжання іх вынікі не маюць значэння. Гэта значыць, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года захоўвае свой легітымны характар. Яе трэба ачысціць ад так званых паправак і аднавіць дзеянне.

**Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.**

# Як забіць сельскую гаспадарку

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Ва ўрадзе разглядаюцца падыходы па фармаванні прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця і праграмы на 2015–2020 гады. «Мы будзем выносіць дастаткова смелыя рашэнні па развіцці народна-гаспадарчага комплексу краіны», — паведаміў прэм'ер Мясніковіч. І паабяцаў рэвалюцыю ў эканоміцы.**



Фота www.bymedia.net

**«Рэвалюцыйнае рашэнне» вылілася ў старую, знаёмую схему: друкуем грошы — уліваем у вёску — друкуем яшчэ грошы — кампенсуем банкам страты ад нізкіх працэнтных ставак**

Смелыя рашэнні ў першую чаргу закрануць грашова-крэдытную палітыку — гаворка ідзе аб зніжэнні ставак па крэдытах для сельгасарганізацый. «Ёсць ускосны механізм, гэта не прамая сувязь паміж коштам крэдыту і дэпазіту. Тут дзяржава мае намер удзельнічаць як актыўны, будзем так казаць, гулец на фінансавым рынку», — растлумачыў Мясніковіч.

Але адбылося практычна ўсё, як заўсёды. «Рэвалюцыйнае рашэнне» вылілася ў старую, знаёмую схему: друкуем грошы — уліваем у вёску — друкуем яшчэ грошы — кампенсуем банкам страты ад нізкіх працэнтных ставак.

Ужо колькі разоў Аляксандр Лукашэнка патрабаваў: вёска, выходзь на самаакупнасць! Той падтрымкі, што была раней, не будзе! Эканоміка не вытрымлівае! А любыя калгаснікі і не варушацца: «Куды ж вы без нас падзенецеся, з вашымі планамі «харчовай бяспекі» і «росту экспарту сельгаспрадукцыі да 7 мільярдаў долараў у год»! Калі панабудавалі такіх планаў, будзеце праплачваць свае ж амбіцыі, нікуды не падзенецеся».

Вось і зараз ужо падпісаны ўказ пра новае крэдытаванне вёскі. Згодна з ім, «Белінвестбанку» і «Беларусбанку» рэкамендавана прадаставіць перапрацоўчым арганізацыям крэдыты на агульную суму 904 мільярда 600 мільёнаў рублёў пад закупку фуражнага збожжа і бялковай сыравіны. Фактычна, гаворка ідзе пра ўліванне амаль мільярда (!) рублёў у калгасы.

Крэдыты будуць прадстаўлены па льготнай стаўцы з наступнай кампенсацыяй банкам страт за кошт бюджэту (па крэдытах у рублях — палова стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка + 3%, у валюце — 5%). Згодна з указам, крэдыты будуць прадстаўлены на тэрмін да года, што з'яўляецца пацвярджэннем таго, што ўлады працягваюць выкарыстоўваць шматгадовую схему рэфінансавання даўгоў прадпрыемстваў АПК.

Я не ведаю, якое там ва ўрадзе «аграрнае лобі». Але тое, што прапануецца рабіць надалей, можа проста забіць усю сельскую гаспадарку. Гэтыя разумныя людзі праціснулі ва ўрад такі праект будучага ўказа, што працаваць ім увогуле будзе не трэба: узяць грошы ў крэдыт, паплёўваць у столь увесь год, потым аддаць крэдыт — і ўсё роўна застацца ў прыбытку.

Па словах таго ж Мясніковіча, для сельскагаспадарчых аб'ектаў, якія ўключаныя ў дзяржпраграмы, стаўка па крэдытах павінна цалкам кампенсавацца за кошт бюджэту. То бок, атрымліваецца, што крэдыт выдаецца беспрацэнтны. На фоне 6,6% інфляцыі за першыя 4 месяцы бягучага года, альбо каля 20% інфляцыі на год, пры сур'ёзнай суме пазыкі, калі «правярнуць» грошы дзе-небудзь па-за вытворчасцю, на гэтыя 20% можна няблага пражыць. А ўлічваючы, што ў нас існуе дзяржпраграма ўстойлівага развіцця вёскі на 2011–2015 гады, у якую ўключаныя «і жук, і жаба», то такія «кампенсаваныя» крэдыты можа атрымаць амаль любое сельгаспрадпрыемства.

Больш за тое, як сказаў Мясніковіч, «што ж тычыцца бягучай дзейнасці, то тут крэдыты таксама павінны быць па мінімальных стаўках. Мы прапануем іх у межах 2–5% гадавых». «Калі гэтая норма будзе прынятая — адпаведны праект указа падрыхтаваны, практычна завершаны ўсе працэдуры па яго ўзгадненні, — то мы мяркуем, што гэта дазволіць істотным чынам палепшыць эканоміку вёскі, бо тэхналагічны цыкл у сельгасвытворчасці ўсё ж вельмі працяглы, і неабходна пазычаць сродкі, браць крэдыты, каб працаваць ад ураджаю да ўраджаю», — сказаў прэм'ер.

Таварышы, гэта канец. Капец усяму, а найперш — сельскай гаспадарцы. Напрыклад, сельгаспрадпрыемства бярэ крэдыт пад «максімальныя», па Мясніковічу 5% гадавых. Не адыходзячы ад касы таго ж банка, яно пераводзіць гэтыя грошы на дэпазіт, стаўка па якім, па сённяшнім часе, складае 40% гадавых. Мы не сеем, мы не пашам, палі зарастаюць пустазеллем, худоба памірае, але ў выніку сельгаспрадпрыемства выходзіць на чысты прыбытак у памеры 35% у год ад сумы крэдыту (стаўка дэпазіту мінус стаўка крэдыту). Альбо дасягаем і 40-працэнтнага прыбытку, калі прадпрыемства ўключанае ў дзяржпраграму, і стаўка па крэдыту кампенсуецца за кошт бюджэту.

Нават калі калгас вырашыць плаціць заробак сваім працаўнікам «за паветра» ў памеры 30% ад узятых грошай, 10% — зусім неблагая прыбытковасць для сельскагаспадарчага прадпрыемства. Дарэчы, у той самай дзяржпраграме ўстойлівага развіцця вёскі на 2011–2015 гады запісана, што «інтэграваным паказчыкам ацэнкі эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці стане рэнтабельнасць продажаў у сельскай гаспадарцы. Узровень гэтага паказчыка да 2015 года павінен дасягнуць 11%».

Як кажуць, сачыце за рукамі: мінімум 10% прыбытку ў выпадку махінацый з крэдытамі і 11% прыбытковасці па праграме дзяржразвіцця! Гэткім чынам можна і прыгожую справаздачу па выкананні дзяржпраграмы развіцця вёскі намаляваць. А гэта ўжо не хухры-мухры, гэта сапраўды цягне на «рэвалюцыю».

Праўда, ёсць адна праблема. Ніводзін банкір у здаровым розуме і цвёрдай памяці не выдасць сельгаспрадпрыемству крэдыт пад 5% гадавых — хіба што толькі дзяржбанкі па загадзе «зверху». Але ў такім выпадку ў гэтых банкаў грошы вельмі хутка скончацца. Дзе Мясніковіч збіраецца ўзяць фінансы на такія крэдыты?

Такія танныя рэсурсы ён можа ўзяць толькі ў адным месцы — у тым памяшканні Нацбанка, дзе знаходзіцца друкарскі станок. І, мяркуючы па ўсім, Нацбанк гэтаму ўжо больш не пярэчыць.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

## Выбірай: цябе задушыць ці зарэзаць

**Вядома, што батоны не растуць на дрэвах. Таксама, як і грошы. Праўда, у адных удаюцца добрыя батоны, а іншым пекарам было б за лепшае кінуць гэту справу, бо толькі муку пераводзяць.**



Дрэнныя батоны, як і дрэнныя грошы, не маюць добрай спажывецкай вартасці. Прыкладам, долар ці фунт, ці еўра — таксама робяцца людзьмі, як і беларускія рублі. Але ж рублі гэтыя не прымаюцца як плацёжны сродак амаль нідзе ў свеце, акрамя роднай сінявокай. Ды і тое не кожную рэч, не кожную паслугу тут можна набыць за беларускія рублі. А за долары — можна ўсё. За долар, як калісьці адзін зазначыў, усё купляецца і ўсё прадаецца.

У тым ліку і ўлада, бо службовыя асобы, якія бяруць хабар, працуюць пераважна з валютамі. Але ж і звычайным людзям нельга абысціся без валюты. Хаця б на адпачынак калі за мяжу з'ездзіць ці на шопінг у Польшчу ці Літву.

Не абысціся без валюты і беларускай эканоміцы. Усе беларускія арганізацыі, хоць экспарцёры, хоць імпарцёры, хоць тыя, што працуюць на мясцовых матэрыялах (прыкладам, соляць айчынныя агуркі ў беларускім расоле), выкарыстоўваюць пакупныя энерганосьбіты.

Зразумела, харчавікі не бегаюць за валютай у абменнікі, яны разлічваюцца з бюджэтам рублямі, а іх канвертацыяй займаецца сам урад. Ураду таксама трэба валюта, бо ён грошы не зарабляе, а толькі выдаткоўвае. Напрыклад, штогод некалькі мільярдаў на датацыі сельскай гаспадарцы ў пераліку на беларускія рублі.

Не зарабляе ні рублёў, ні валюты і вярхоўны беларускі правіцель. А вось выдаткоўвае больш за ўсіх. З таго, што зарабляюць іншыя. І нават з таго, што яшчэ не зарабілі. Маем на ўвазе крэдыты, якія «здабываюцца» паўсюль, дзе іх яшчэ даюць. Зараз даў 2 мільярды Пуцін у абмен за подпіс Лукашэнкі на інтэграцыйным праекце.

Так і працуе ўся беларуская фінансавая сістэма — «з колаў»: пазыка за пазыкай у разлік за старыя даўгі.

Так і жывем — пад Богам, правіцелем і ў трывожным чаканні, што аднойчы гэтае харавство ляснецца. Рвануць цэны, знікнуць батоны.

Згодны, калі кажуць, што дэвальвацыі залежаць ад нас, ад людзей. Гэта ў экзістэнцыйным сэнсе. А канкрэтна яна мае вельмі ўскоснае дачыненне да фінансавай палітыкі разам з яе «архітэктарам». Менавіта ён запускае друкарскую машыну, і папяровых грошай становіцца шмат. Пры гэтым той, хто другую грошы, мае час, каб паспець набыць свае кішэні і затанна затаварыцца патрэбнымі яму рэчамі. А вось чалавек звычайны — рабочы, служачы, прадпрымальнік — пакуль атрымае свой заробак, рублі ўжо ператворацца ў капейкі.

Гэтая пагроза становіцца рэальнасцю менавіта ў моманты, калі той, хто друкуе грошы ў краіне, пачынае разважаць пра ментальныя ўласцівасці сваіх падданых і асаблівасці прыроды беларускіх грошай.

Карацей, звыкла ўключае дэмагогію. Маўляў, калі вы не перастанеце «бегаць па абменніках», то ён гарантуе стабільнасць. Калі ж не, мы гэта не плануем, але па вашай просьбе зробім, дэвальвуем. На 10–20 працэнтаў, як яму, быццам бы, раяць нейкія спецыялісты. Так што выбірайце! Бо на самай справе, па яго словах, з пачатку года беларускія грошы ўжо «пахудзелі» на 7–8 працэнтаў, а пасля яшчэ на 5–7%. На яго глыбокую думку, людзі да гэтага прывыкаюць і не палохаюцца.

Як кажуць, выбар заўсёды ёсць. Тут прапануецца выбіраць — ці цябе ноччу прыдушаць падушкай, ці «хірургічным спосабам» ампутуюць галаву. Вынік, вядома, аднолькавы, але адчуванні, падаецца, розныя. І ў ахвяры, і ў ката. Пры гэтым кат ахвяру лічыць злачынцам. Тры гады таму такую «хірургічную аперацыю» правялі Лукашэнка з Пракаповічам.

А вінаватымі абвясцілі аўтамабілістаў, якія спяшаліся купіць аўто да абвяшчанага падвышэння мыты на іншамаркі. Бо Беларусь прыняла на сябе абавязкі абараняць расійскі аўтапрам ад замежнай канкурэнцыі на сваім уласным рынку.

Чакалася, што Масква дасць Лукашэнку грошы, каб кампенсаваў страты фінансавай сістэму. Але ці грошай не далі, ці няшмат далі, ці ў Мінску знайшлі для іх іншае прымяненне, невядома. У выніку, той, хто паспеў набыць таннае аўто, згубіў пасля дэвальвацыі 1/3 сваіх спажывецкіх даходаў, хто нічога не купіў, страціў амаль усё.

Калі не лічыць бальшавіцкія экспрапрыяцыі, гэта адабранне грошай у насельніцтва стала адным з буйнейшых у сучаснай гісторыі Беларусі. Відавочна, што працэс яшчэ не скончаны.



Фота аўтара

# Яўген Усошын — ад грузчыка да святара

**Да таго моманту, як Яўген Усошын стаў святаром грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы, ён паспрабаваў шмат прафесій і сацыяльных роляў. Быў то «левым» з паголенай галавой, то «металюгам» з даўгімі валасамі... Скончыў гістарычны факультэт БДУ, удала паспрабаваў сябе ў журналістыцы ў штотыднёвіку «Згода» (папярэдніку «Новага Часу»). Але потым прыйшоў да служэння Богу. Протапрасвітар Айцец Яўген распавёў пра сваё святарскае пакліканне, складанасці чалавечага выбару і раскрыў таямніцу шляхоў да вольнасці.**

Вікторыя ЧАПЛЕВА

***— Ці істотная розніца паміж айцом Яўгенам і маладзёнам Яўгенам канца 1990-х?***

— Безумоўна, гэта два розныя чалавекі. Мае погляды змяняліся даволі часта. Недзе з 15 гадоў, калі малады чалавек пачынае задумвацца аб жыцці, шукаць сябе ў грамадстве, я цікавіўся левымі, анархічнымі, кансерватыўнымі, ліберальнымі рухамі, зрэшты, хрысціянскай дэмакратыяй. На розных этапах свайго жыцця адчуваў сябе то кансерватарам, то радыкалам... Увогуле, радыкалізм — гэта добрая рэч, калі выводзіць яго ад слова «корань», што па латыні гучыць як radix. У пэўны момант прыйшло асэнсаванне выбару: я вырашыў вярнуцца да свайго паклікання, якое калісьці адчуў.

***— Але каб з радыкала вырас святар, трэба перайсці праз велізарны мост. Як прыйшло разуменне свайго шляху?***

— Усё пачалося з хросту, які я прыняў яшчэ школьнікам. Ахрысціўшыся, ужо дзесьці праз тыдзень я неўпрыкмет адчуў пакліканне да святарства.

***— Своеасаблівы ўнутраны голас?***

— Унутраны голас — гэта ўвогуле цікавая рэч, пра што ходзіць шмат анекдотаў... Не было ў мяне ўнутранага голасу. Проста захацелася стаць святаром. І гэтае жаданне ўва мне то заціхала, то запальвалася. Яно жыло ўва мне на працягу ўсіх студэнцкіх гадоў. Я быў больш ці менш пабожны, хадзіў у царкву. Але жаданне быць святаром было ў мяне заўжды.

***— Тым не менш, шлях да гэтага быў не кароткім?***

— Зразумела! Кім толькі я ні быў! Нават грузчыкам. А на 5 курсе сябар прывёў мяне ў «Згоду». Я прапрацаваў там каля двух гадоў пазаштатнікам. Захацелася паспрабаваць сябе ў журналістыцы, але...

***— Не атрымлівалася пісаць?***

— Не, людзям падабалася, прынамсі, некаторым. Але я зразумеў, што гэта не маё. І пасля ўніверсітэта, праз яшчэ адну чарговую спробу знайсці сябе ў свецкім жыцці, я вырашыў усё ж такі пайсці ў семінарыю, стаць святаром.

Святарскае пакліканне — гэта тонкая матэрыя. Яно патрабуе выпрабавання. Неабходны час, каб зразумець, ці не ёсць гэта проста нейкае мінутнае памкненне. І семінарыя існуе не толькі для таго, каб выявіць здольнасці, а найперш для таго, каб чалавек здолеў зразумець, ці адчувае ён сапраўды пакліканне. З чыста тэхнічнага боку, ёсць шмат людзей — палітыкаў, бізнэсоўцаў, будаўнікоў, любых іншых прафесій, якія маглі б стаць нядрэннымі святарамі. Але тут ёсць нешта большае, чым тэхніка, — гэта пакліканне Божае.

***— Апошняя спроба, пасля якой вы вырашылі ўсё ж такі ісці за сваім пакліканнем, была журналістыка?***

— Гэта маглі быць яшчэ васямнаццаць спробаў. Але іх я ўжо не стаў рабіць. Апошняя – настаўнік у мастацкім ліцэі. Але яна цягнулася толькі два тыдні. Ваганні зніклі, і я пастанавіў дакладна: «Хачу быць святаром».

***— Ці змяніліся вашы погляды на Беларусь пасля прыняцця святарства?***

— Канешне. Пры тым, я не магу сказаць, што яны канчаткова ўсталяваліся. Мяняецца сітуацыя ў краіне, мяняюцца людзі, зрэшты, мяняецца краявід. Я лічу, што кожны хрысціянін — гэта патрыёт. Але ў хрысціяніна ёсць дзве Айчыны: Айчына, у якой мы жывем, і Айчына, якая ёсць у Небе. І тая, Нябесная Айчына, — пераважная, бо яна больш трывалая. І да той Айчыны мы ўсе пакліканыя, незалежна ад таго, дзе мы нарадзіліся і на якой мове размаўляем.

***— Я чытала ваш артыкул за 2000 год. Там ёсць такія радкі: «Палякі прыйшлі да волі молячыся, балтыйскія народы — спяваючы. Баскі дагэтуль страляюць, але, пэўна, ніколі не дамогуцца сваёй дзяржавы». Беларусам вы раілі гукаць вясну. Што мелі на ўвазе?***

— О! З гэтым артыкулам увогуле дзіўная гісторыя выйшла! Пару гадоў таму натрапіў выпадкова на яго ў інтэрнэце. Чытаю тэкст і думаю: «Як цікава аўтар напісаў!». А потым гляджу — гэта ж мой тэкст! А пра гуканне... Гэта хутчэй быў проста мастацкі прыём. Тады мне было важна напісаць прыгожа... Гэта адзіны каментарый, які я б мог зрабіць на гэты конт.

***— 14 год таму вы пісалі, што палякі атрымалі вольнасць малітвамі...***

— А зараз я лічу, што яны да канца яе не атрымалі.

***— Гэта малітвы не да канца дапамаглі?***

— Дапамаглі. Але тады ў Польшчы быў рэжым таталітарызму. Рэжым, калі чалавеку перашкаджалі быць чалавекам. За апошні перыяд шмат што змянілася, змяніліся людзі, сталі лепшымі. Але супраць цячэння заўжды складаней ісці. Цячэнне — гэты свет. Гэты свет, як яго разумеў Хрыстос, — вораг чалавеку. Паддаючыся законам гэтага свету, заўсёды лягчэй зманіць, чым сказаць праўду, скрасці, чым падзяліцца. Ёсць плынь у грамадстве, якая прапагандуе зло і зваблівае чалавека ісці за гэтым злом. І ні ў якім выпадку чалавечую вольнасць нельга зводзіць толькі да палітычнай. Калі чалавек унутры зняволены, то ён і палітычна ніколі не будзе вольны. Унутрана зняволеныя людзі скідваюць аднаго «тырана», і на яго месца прыходзіць іншы. Тады патлумачце мне: які сэнс такіх дзеянняў? Чалавек перш за ўсё мусіць быць вольным унутрана. Калі ён такім будзе, то будзе вольны і вонкава, нават калі, напрыклад, трапіць за краты.



**Айцец Яўген на Пасхальнай службе.** Фота з асабістага архіва Яўгена Усошына

***— А што ёсць шляхам да ўнутранай вольнасці?***

— Змаганне са сваімі слабасцямі, злом, якое сядзіць унутры чалавека. Што такое свабода? Хрысціянскі погляд на яе вельмі просты — свабода была дадзена для таго, каб чалавек меў шчасце. Бо «за вуха» чалавека зрабіць шчаслівым немагчыма. Гэта тое ж самае, калі загадваць дзіцяці есці сілком. Ён будзе казаць: «Не смачна!». Таму чалавеку патрэбна свабода — для выбару. А шчасце чалавечае было і ёсць у Богу, у дабры. Свабода мае сэнс, калі чалавек выбірае добрае. Калі чалавек выбірае злое, то яна перастае мець свой сэнс, бо вядзе не да чалавечага шчасця.

***— У Біблії напісана, што ўсялякая ўлада ад Бога. То бок кепскія дзеянні супраць улады азначаюць кепскія дзеянні супраць Бога?***

— Выраз «усякая ўлада ад Бога» не мае на ўвазе кіраўніка. Бог — пачатак усякае ўлады. Але ўлада таксама павінна ўсведамляць сваю боскасць — яе дзеянні мусяць быць накіраваны на супольнае дабро. Калі ж не, то «ўладар» — ці ён чыноўнік, ці муж-бацька ў сям'і, ці імператар — выкарыстоўвае ўладу няправільна. А гэта азначае, што здзяйсненне ўлады ўжо не з'яўляецца выкананнем яе боскага прызначэння — упарадкавання грамадства для супольнага дабра. Калі ўладар кіруецца ў дзейнасці іншымі мэтамі, ён крадзе гэтую ўладу, бо яна ад Бога. Вось і ўсё.

***— І што варта рабіць так званым «падуладным»? У вядомым польскім фільме «Караль. Чалавек, які стаў Папам» на прыкладзе жыцця Яна Паўла II паказваецца, што са злом трэба змагацца любоўю і малітвамі.***

— Насамрэч, гэты фільм нашмат глыбейшы, чым можа спачатку падацца. Галоўны герой Караль Вайтыла сустракае старэйшага сябра, які расказвае яму пра змаганне любоўю, бо дабро перамагае зло. Але гэта не было змаганне палітычнае. Гэта было змаганне супраць зла, якое ў пэўны момант прысутнічала ў краіне. Ні вы, ні я не жывем па-за грамадствам. І чалавек не жыве ў прасторы, дзе лётаюць анёлы. Таму змаганне хрысціяніна больш глыбокае. Яно павінна быць вонкавым і ўнутраным. Зло можа прымаць не толькі палітычныя, але і іншыя аблічча. Таму калі казаць пра шляхі змагання, то трэба адразу агаворваць яго характар. А ў фільме прапагандавалася больш глыбокае змаганне — быць людзьмі на поўную меру. Прынамсі, не толькі антыкамуністамі, якія дабром падрываюць зло. Дабро — гэта не бомба для змагання, але найвышэйшая мэта, якая дасягаецца барацьбой унутранай — з недасканаласцямі і са злом у сабе перш за ўсё.

***— Што змянілася ў грэка-каталіцкай царкве ў параўнанні з 1990-мі? Ці расце колькасць вернікаў? Ці ствараюцца новыя парафіі?***

— Парафіі не ствараюцца — яны аднаўляюцца. Нашы парафіі ніколі не былі юрыдычна скасаваныя. Іх ліквідаваў Мікалай I, актам свецкай улады, такім самым чынам я магу нешта ліквідаваць. Узрост нашых парафіяў ідзе паступова як колькасны, так і маральны. Увогуле, у сучасным грамадстве пануе такое меркаванне: чым больш колькасці, якую вымералі лінейкай, тым больш якасці. Але гэта не так. Наша царква жывая. Да нас людзі прыходзяць, каб знайсці Хрыста. І гэта — знак жыцця. Царква развіваецца, і Бог яе напаўняе.

***— Не было сумненняў у выбраным шляху?***

— Гэта — маё. Часам бывае цяжка. Але нават цяжкае жыццё можа быць шчаслівым. Мне было складана, калі я быў семінарыстам. І зараз бываюць цяжкасці. Маё святарскае пакліканне, канешне, прыносіла свае калючкі, але яно ніколі не рабіла мяне няшчасным.

Канешне, былі. Сумненні — гэта нармальны працэс, калі ён не пачынае руйнаваць жыццё па той прычыне, што табе раптам нешта не спадабалася. Калі чалавек стаўся кімсьці сам, а не пад прымусам, калі ён свядома абраў шлях, то, значыць, варта проста прайсці трошку далей.

***— Але ў такім выпадку чалавека чакае штодзённае змаганне з самім сабой...***

— Так, а што вы хацелі? Гэта жыццё. Не, канешне, можна не змагацца. Тады можаш адразу класціся і паміраць. Жыццё ёсць змаганне. І гэта варта зразумець, асабліва ў сучасным свеце. Гэта не тыя пару клікаў, пасля якіх можна падумаць, што жыццё змянілася. Яно проста так не зменіцца. Чалавек мусіць змагацца. Калі ён сутыкаецца з рэальнасцю і разумее, што трэба змагацца, перамагаць, рабіць свядомыя і адказныя жыццёвыя выбары, — толькі тады ён знойдзе шчасце ў гэтым жыцці.

TV

## 21 МАЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Ваенны баявік «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**11.05** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера-2» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Меладрама «Другое дыханне» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.30** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера-2» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны баявік «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**23.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.40** Чэмпіянат свету па хакеі 2014. Агляд.
**01.05** Дзень спорту.
**01.20** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Дзяўчыны». Серыял.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Другое дыханне». Шматсер. фільм.
**23.15** Мастацкі фільм «Рамантык».
**01.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарачы лёд».
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**10.45** «Прошаная вячэра».
**11.35** «У нас усе дома». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**13.55** Фільм «Фантамас». Францыя-Італія.
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Шай-бу! Shai-BY!.».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**18.35** «Мае цудоўныя...».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Гісторыя Папялушкі». ЗША - Канада, 2004 г. (Пачатак).
**20.30** «Гарачы лёд».
**20.50** Фільм «Гісторыя Папялушкі». ЗША - Канада, 2004 г. (Працяг).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**23.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажаліцца».
**00.20** «Знахар». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія). Заключная серыя.
**10.20** Шпіёнскі дэтэктыў «Выведка». 3 серыя.
**11.20** Беларуская кухня.
**12.05** Дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**14.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.45** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**15.45** Футбол. На шляху да чэмпіянату свету па футболе 2014.
**16.15** Рэпарцёр.
**17.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды натарыуса Няглінцава» (Расія). Заключная серыя.
**19.00** Дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**22.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.40** Шпіёнскі дэтэктыў «Выведка». 3 серыя.
**00.25** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.45, 21.05, 00.15** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.55, 15.05, 17.10** «Сімвалы эпохі». Самвыдат.
**08.25** «Размовы пра духоўнае».
**08.35** «Сышчык Пуцілін». Мастацкі фільм. 6-я серыя.
**09.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.55** Серыял «Мегрэ».
**10.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Вячаслава Ражкова.
**11.10** «Размаўляем па-беларуску».
**11.15** «Кадэт». Мастацкі фільм паводле аповесці Анатоля Жука «Помста матылькоў».
**13.10** «Размовы пра духоўнае».
**13.20** «Палета вольнае упорства...» Дакументальны фільм пра творчы шлях балерыны, народнай артысткі СССР Маі Плісецкай.
**13.45** «У цэнтры Еўропы». Дакументальны фільм пра непаўторную прыгажосць беларускай прыроды ў Глыбоцкім раёне.
**14.10** Мультфільмы.
**14.30** «Скарбніца Берасцейшчыны». Брэсцкая крэпасць. Моц каменю.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.20** «Размовы пра духоўнае».
**15.30** «Цуды прыроды». Шатландыя. Байкал. Андалузія.
**15.55** «Горад Боны і Давыда». Дакументальны фільм пра архітэктуру і гісторыю старажытнага Давыд-Гарадка.
**16.05** «Дэбют». Кароткаметражны фільм.
**16.35** «Карані». Скіт у Адрынках. Дзейнасць архімандрыта Гаўрыіла.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.25** «Размовы пра духоўнае».
**17.35** «Фабрыка цудаў». «Ролі агучваюць...» Дакументальны фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў.
**18.00** «Плошча мастацтваў». Педагог, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Вячаслаў Паўлюць.
**18.30** «Музеум». Гістарычны партрэт.
**18.40** «Размаўляем па-беларуску».
**18.45** «Любоў і жыццё маё ...». Дак. фільм пра кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.
**19.20** «Слуцкія паясы». Дакументальны фільм пра гісторыю ўзнікнення слуцкіх паясоў.
**19.50** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 7 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял «Мегрэ».
**21.55** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.20** «Гранатавы бранзалет». Мастацкі фільм паводле аповесці Аляксандра Купрына.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Вячаслава Ражкова.
**00.25** «Сімвалы эпохі». Самвыдат.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.40** Вострасюжэтны серыял «ППС-2».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Дазнаўца-2».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «НС - надзвычайная сітуацыя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.15, 14.35, 00.05, 02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.55, 14.10** Аб'ектыў.
**09.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.05** Відзьмо-невідзьмо.
**10.30** Моўнік: Яўрэі. Жыды. Габрэі.
**10.40** Назад у будучыню.
**10.50** «Людскія справы».
**11.20** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**13.55** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**14.55** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.20** Відзьмо-невідзьмо.
**15.50** Моўнік: Яўрэі. Жыды. Габрэі.
**16.00** Назад у будучыню.
**16.10** «Людскія справы».
**16.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**17.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Кастусь Каліноўскі.
**17.45** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.05** «Рэвалюцыя... Крымская пастка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.40** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**23.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.00** Аб'ектыў.
**02.45** 54 % (публіцыстычная праграма).

## 22 МАЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Ваенны баявік «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**11.05** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера-2» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Меладрама «Другое дыханне» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.30** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Лірычная камедыя «Як выйсці замуж за мільянера-2» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны баявік «Дыверсант. Канец вайны» (Расія). Заключная серыя.
**23.55** Вечар цяжкага дня.
**00.40** Сфера інтарэсаў.
**01.15** Чэмпіянат свету па хакеі 2014. Агляд.
**01.40** Дзень спорту.
**01.55** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Чакай мяне. Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.05** Вячэрні Мінск.
**23.10** Мастацкі фільм «Сушы - Girl».
**01.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарачы лёд».
**09.20** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**10.45** «Прошаная вячэра».
**11.35** «У нас усе дома». Камедыйны серыял.
**12.10** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**13.55** Фільм «Гісторыя Папялушкі». ЗША - Канада, 2004 г.
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Шай-бу! Shai-BY!.».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**18.35** «Мае цудоўныя...».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15, 20.40** Фільм «Салдат». Вялікабрытанія - ЗША, 1998 г. (Пачатак).
**20.30** «Гарачы лёд».
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «Дзеці - гэта ХораШоў».
**23.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Знахар». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 1-я серыя.
**10.20** Дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**12.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**13.45** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**14.50** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 1-я серыя.
**15.55** Хакей. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**18.20** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**18.40** Дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**19.55** Хакей. Чэмпіянат свету. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.35 КЕНО.
**22.15** Тэлебарометр.
**22.20** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**23.25** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.25** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.40, 15.15, 17.10, 00.40** «Сімвалы эпохі». «Тры сякеры» - партвейн 777.
**08.25** «Размовы пра духоўнае».
**08.35** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 7 серыя.
**09.30** «Сімвал Перамогі». Балгарыя. Алёша.
**09.55** Серыял. «Мегрэ».
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Алены Аладавай.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.05** «Гранатавы бранзалет». Мастацкі фільм паводле аповесці Аляксандра Купрына.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.55** «Размовы пра духоўнае».
**13.05** «Адкрыты сезон». Дак. фільм пра Беларускую дзяржаўную філармонію.
**13.45** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Міхася Лынькова.
**14.05** «Плошча мастацтваў». Белая памяць... Паэт Мікалай Мятліцкі.
**14.35** «Падарожжа са смакам». Швейцарыя.
**15.05** «Калейдаскоп».
**15.30** «Размовы пра духоўнае».
**15.40** «Фабрыка цудаў». «Кампазітар». Дак. фільм пра таямніцы стварэння анімацыйных фільмаў.
**16.05** «Палескі пачаступак». Бабка «Па-мотальску».
**16.20** «Карані». Паэты Кішынёва.
**16.45** Мультфільмы.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.25** «Размовы пра духоўнае».
**17.35** «Містыка ўлады». «Мара імперыі». Парадны партрэт Кацярыны ІІ мастака Д. Лявіцкага.
**18.05** «Леанард Бернстайн. Роздум». Дак. фільм пра жыццё і творчасць выдатнага амерыканскага кампазітара Леанарда Бернстайна.
**18.55** «Жыццё Тураўскага луга». Дак. фільм.
**19.05** «Скарбніца Магілёўшчыны». Бабруйская крэпасць.
**19.35** «Ілюзіён». Дакументальны фільм пра архітэктуру Масквы 30-х-50-х гадоў.
**19.55** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 8 серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Сімвал Перамогі». Балгарыя. Алёша.
**22.30** «Альпійская балада». Маст. фільм паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Аладавай.
**00.30** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.40** Вострасюжэтны серыял «ППС-2».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Дазнаўца-2».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «НС - надзвычайная сітуацыя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.10, 14.30, 00.15, 02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Аб'ектыў.
**09.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.30** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**11.25** Невядомая Беларусь: «Шчаслівыя людзі», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**12.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**13.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.05** Аб'ектыў.
**14.50** 54 % (публіцыстычная праграма).
**15.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.10** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**17.05** Невядомая Беларусь: «Шчаслівыя людзі», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Кастусь Каліноўскі.
**17.50** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.25** Тэатр ваенных дзеянняў.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Сінкевіч і Алесь Лукашэвіч.
**22.15** «Рэвалюцыя. Слёзы Майдану», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.35** «Праз прыцэл і аб'ектыў», дак. фільм, 2010 г., Грэцыя.
**23.30** «Інстынкт», серыял: 6 серыя.

TV

## 25 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**05.45** Меладрама «Праязны білет» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна). 2-я серыя.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.30** Меладрама «Чортава кола» (Расія).
**18.00** Ваенная драма «Ціхая застава» (Расія).
**19.40** Навіны надвор'я.
**20.00** Галоўны эфір.
**20.55** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінал. Прамая трансляцыя.
**23.55** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна). 2-я серыя.
**00.50** Чэмпіянат свету па хакеі 2014. Агляд дня.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Мультфільм.
**12.15** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.00** Камедыя «У адкрытым моры».
**15.00** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Вяртанне высокага бландына ў чорным чаравіку».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Дыханне планеты.
**21.40** Здабытак Рэспублікі.
**23.40** Мастацкі фільм «Цягнік на Дарджылінг».
**00.25** «Ціхі дом».

### СТВ

**06.05** «Гісторыя адной зайздрасці». Дакументальны фільм.
**07.10** Фільм «Я - легенда». ЗША, 2007г.
**09.00** «Гарачы лёд».
**09.10** «Ежа багоў».
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Блакітны карбункул». Беларусьфільм, 1979г. (Пачатак).
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «Блакітны карбункул». Беларусьфільм, 1979г. (Працяг).
**14.30** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.50** «Гарачы лёд».
**21.00** Міжнародны музычны праект «Дзеці - гэта ХораШоў». 2-і паўфінал.
**22.00** Фільм «Дарыян Грэй». Вялікабрытанія - Канада, 2002г. (Пачатак).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.50** Фільм «Дарыян Грэй». Вялікабрытанія - Канада, 2002г. (Працяг).
**00.05** Фільм «Кабеі». Японія, 2008г.

### Беларусь 2

**06.55** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**07.55** Тэлебарометр.
**08.00** Фільм-казка «Залаты гусак» (ГДР).
**09.05** Заўтра - гэта мы!
**09.40** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.15** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.40** Стыль-бюро.
**13.15** Аўтабатл.
**13.50** Крымінальны баявік «Бой з ценем-2: Рэванш» (Расія).
**16.25** Хакей. Чэмпіянат свету. Матч за 3-е месца. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** КЕНО.
**21.10** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**00.00** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**00.50** Хакей для ўсіх.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Уваскрэсенне». Мастацкі фільм паводле рамана Л.М.Талстога. 1-я і 2-я серыі.
**11.30** «Эпоха ВІА». Дакументальны фільм пра гісторыю стварэння першых вакальна-інструментальных ансамбляў у Савецкім Саюзе. Часткі 1-я і 2-я.
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.20** «Падарожжа са смакам». Харватыя.
**13.55** «Вялікі. Біяграфія тэатра». Дакументальны фільм пра галоўную тэатральную пляцоўку Беларусі.
**14.35** Карл Орф. «Карміна Бурана». Вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне. Харэаграфія і пастаноўка Валянціна Елізар'ева. Дырыжор - Я.Вашчак.
**15.40** «Наперад у мінулае».
**16.05** «Размаўляем па-беларуску».
**16.10** Дзіцячы фільм. «Капитан Соври-голова». 1-я і 2-я серыі.
**18.15** «Культпрасвет».
**18.40** Сусветнае кіно. «Гарбун».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Нашы любімыя». Канцэрт ансамбля «Песняры».
**22.10** «Культпрасвет».
**22.35** «Тэрмінова патрабуецца...самазабойца». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага па творы Н.Эрдмана.
**01.00** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая передача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.00** Сёння.
**13.20** Таямнічая Расія».
**14.10** Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**16.00** Сёння.
**16.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**18.00** «І зноў добры дзень!».
**18.25** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Вострасюжэтны фільм «Зброя».
**21.30** Драматычны баявік «Слёзы сонца». ЗША, 2003 г.
**23.45** «Школа зласлоўя».

### Белсат TV

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**07.55** «Таямніца Сагалі», серыял: 5 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды».
**08.55** Беларусы ў Польшчы.
**09.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.30** «Востраў Крым. Deja vu», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**11.05** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**11.45** «Мэлекі: водар анёла», дак. фільм, 2010 г., Ліван.
**13.05** Фітнес-шмітнес.
**13.25** «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**14.25** «Госфард-Парк», драма, 2001 г., Вялікабрытанія–ЗША.
**16.40** «Горад з Мора», серыял: 3 серыя.
**17.25** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне 1863 года.
**19.15** Форум (ток-шоу): Беларускі вакзал.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** «Рэвалюцыя. Слёзы Майдану», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (спецыяльнае выданне).
**22.00** Дакументальная гадзіна: «ГУЛаг», дак. фільм: 4 серыя.
**22.55** Фільматэка майстроў: «Гамлет», трагедыя, 2010 г., ЗША–Вялікабрытанія–Францыя.
**01.05** «Востраў Крым. Deja vu», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**01.40** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ігар Корзун.
**02.10** Форум (ток-шоу): Беларускі вакзал.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Кассир
Всего ________

# Данецк схапіўся за гарачы прас

Зміцер ГАЛКО

**Ілюзіяй было б лічыць вынікі праведзенага рэферэндуму суцэльным пшыкам і фальсіфікацыяй, якая была патрэбная купцы ўзброеных бандзюкоў, у той час як мірным жыхарам Данбасу патрэбная адзіная і непадзельная Украіна.**

Познім нядзельным вечарам у Данецку мала што нагадвала аб пераможным заканчэнні лёсавызначальнага, на думку яго арганізатараў, рэферэндуму «аб самавызначэнні Данецкай народнай рэспублікі». Мне на вочы трапіўся ўсяго адзін агітплакат з заклікам сказаць «так» дзяржаўнай самастойнасці ДНР, дзе чыёйсьці рукой было дапісана слова «не». Дзядзька, які здымаў пашкоджаны плакат на мабільнік, заўважыўшы мяне, сказаў поўным камічнага трагізму голасам: «Глядзіце, што нарабілі... сволачы!». Ён быў адным з нешматлікіх гараджанаў, якія гэтак перажывалі за вынік рэферэндуму, што спаць не маглі. Шматтысячных вулічных гулянняў са смехам, жартамі і весялосцю не назіралася. Пуставала калыска цэнтрабежнага руху — плошча Леніна. Нават каля абласной адміністрацыі, цяпер галоўнага штабу ДНР, сабралася ўсяго колькі сотняў чалавек, ды і тыя ў напаўсонным стане глядзелі вечна ўключаны расійскі тэлеканал.

З будынку тэрытарыяльнай выбарчай камісіі распараныя, нібы з лазні, выходзілі добра знаёмыя беларускаму выбаршчыку цётачкі, якія забяспечваюць элегантныя перамогі, — з магутнымі азадкамі, начосам, клапатлівым хатнім выглядам і думкамі аб баршчы, які яны мусяць прыгатаваць для сям'і на заўтра.

Гэта магло б нагадваць якія-небудзь заштатныя, нікому не цікавыя выбары невядома каго невядома куды ў Беларусі. Але вось прывезлі чарговую порцыю бюлетэняў. З будынку выскачыла група людзей у камуфляжы, балаклавах, з рознакалібернай зброяй, каб забраць іх. Зрэшты, напружанне, якое выклікала іх з'яўленне, хутка змянілася прыдушаным смехам на ўсіх, хто за імі назіраў. Яны камічна пятлялі, падскоквалі, прысядалі, кудысьці цэлілі... Хіхікаючы ў цішай пустаце нядзельнага вечара, хатнія цётачкі з начосамі казалі адна адной: «От ужо, не нагуляліся ў зарніцу».

Адным словам, гістарычнай велічы моманту не адчувалася. Убачанае зусім не вязалася з бравурнымі лічбамі: яўка — 75%, «за» дзяржаўную самастойнасць ДНР — 89%. Таму наступным днём, 12 мая, у панядзелак, я вырашыў пагутарыць з людзьмі на данецкіх вуліцах нарэшце іх удзелу ў рэферэндуме. Ці хадзілі яны галасаваць, як прагаласавалі і чаму менавіта так.

Разам з маім калегам Алегам




Сухавым, нядаўна звольненым з «The Moscow Times» у рамках патрыятычнай чысткі шэрагаў ад нядобранадзейных элементаў, мы патурбавалі 70 мінакоў: шматдзетных хатніх гаспадыняў, цырульніц, шахцёраў, аўтаслесараў, інжынераў, вучоных, юрыстаў, эканамістаў, самых розных людзей. Пасля чаго Алег, які вельмі спачувае Украіне, сказаў: «Мае бандэраўскія ілюзіі развеяліся...»

Ілюзіяй было б лічыць вынікі праведзенага рэферэндуму суцэльным пшыкам і фальсіфікацыяй, якая была патрэбная купцы ўзброеных бандзюкоў, тады як мірным жыхарам Данбасу патрэбная адзіная і непадзельная Украіна. Амаль палова апытаных, 48,6%, калі быць дакладным, галасавалі на рэферэндуме «за» дзяржаўную самастойнасць ДНР. «Супраць» прагаласавалі ўсяго 2,7%. З розных прычынаў не бралі ўдзелу ў галасаванні 23%. Нарэшце, адмовіліся адказваць на пытанні 25,6%.

У майго калегі была вялікая спакуса залічыць усіх «адмоўнікаў» у лік тых, хто прагаласаваў бы «супраць», бо страх адказваць мог быць толькі ў тых, хто баяўся патрапіць у чорны спіс ДНР. На самай справе матывы прыхоўваць сваё стаўленне да рэферэндуму былі розныя. Прынамсі некалькі чалавек прагаварыліся, што яны баяцца або праслаўтага «Правага сектару», або кіеўскай улады, якая можа іх пакараць за сепаратызм.

Увогуле, людзі ў Данецку мо-

**Многія не разумеюць, што менавіта Расія прынесла ім вайну, бо звыклі безаглядна і некрытычна яе любіць. Многія гэта разумеюць, але схіляюцца да яе проста таму, што яна мацнейшая**

цна напужаныя. Адна жанчына сказала: «Я вам зараз што-небудзь адкажу не тое, а ззаду чалавек з вінтоўкай...» Але, на маю суб'ектыўную думку, тыя, хто адказваў, адказвалі шчыра.

Іншай ілюзіяй было б думаць, што ўсе, хто галасаваў на рэферэндуме «за», галасавалі за далучэнне да Расіі. Такіх аказалася меншасць. Астатніх лідары ДНР, якія ўжо заявілі пра планы хуткага ўваходжання ў склад Расійскай Федэрацыі, проста выкарысталі ўцёмную.

Ці не яшчэ меней людзей галасавалі за стварэнне незалежнай Данецкай рэспублікі. Большасць апытаных адмяла гэтую ідэю як непрадуманую, нежыццяздольную і абсурдную.

Хтосьці гаворыць пра аўтаномію ў складзе Украіны, хтосьці хоча дакрычацца да Кіева, што мы тут іншыя, палюбіце нас чорненькімі, хтосьці вінаваціць цэнтр ва ўсіх смяротных грахах і кажа пра немагчымасць далей жыць пад яго ўладай. Але ў асноўным людзі галасавалі за тое, каб «усё гэта нарэшце скончылася». Таму яны і не святкавалі сваёй перамогі разам з узброенымі «апалчэнцамі». Бо хочуць, каб яны таксама раптам скончыліся.

Гвалт, кроў і бязладдзе страшэнна напалохалі іх. І яны ў адчаі ўхапіліся за мірны інструмент вырашэння праблем, які ім прапанавалі падпальшчыкі вайны.

«Можа, хаця б Расія прынесла нам мір?» — няўпэўнена спытаўся ў нас самых хлопец-рабочы. Ён і сам мала верыў у гэта. Толькі іншыя альтэрнатывы здаваліся яму зусім прывіднымі.

Многія не разумеюць, што менавіта Расія прынесла ім вайну, бо звыклі безаглядна і некрытычна яе любіць. Многія гэта разумеюць, але схіляюцца да яе проста таму, што яна мацнейшая. «Што тут ужо паробіш, нават Штаты бздзяць на Расію лезці», — як выказаўся адзін таксіст.

Так, Данбас заблытаўся, у пошуках паратунку ён схапіўся за гарачы прас, не ўбачыўшы працягнутай рукі. Але чаму не ўбачыў — бо кепска глядзеў, ці таму, што яе не было? На мой погляд, бессэнсоўна спрачацца па гэтым пытанні, лепей працягнуць руку яшчэ раз, больш заўважна. Інакш за гарачы прас давядзецца трымацца абодвум.



Падлік галасоў у тэрытарыяльнай камісіі




## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Краіна, якая яшчэ ў 1990-я гады абрала ў прэзідэнты савецкага патрыёта, афіцыйна вярнулася да савецкай атрыбутыкі і прагаласавала на рэферэндуме за рускую ў якасці дзяржаўнай мовы. Здавалася б, зліццё з Расіяй павінна адбывацца амаль у аўтаматычным рэжыме. Але жыццё не зводзіцца да фармальных прыкметаў. Здарылася тое, што дваццаць гадоў таму нікому і ў галаву не прыходзіла. Сёння ясна, што ніхто не зрабіў так шмат для будаўніцтва беларускай нацыянальнай дзяржавы, як Аляксандр Лукашэнка. Яго рэжым цалкам трывалы і, пры велізарнай матэрыяльнай залежнасці ад Масквы, на здзіўленне, незалежны ад яе палітычна. А каб падкрэсліць ідэалагічную дыстанцыю, Лукашэнка, які і раней, насцярожана ставіўся да георгіеўскай стужкі, на гэты раз фактычна выключыў яе з афіцыйнай атрыбутыкі святкавання 9 мая ў Беларусі. Зазіраць наперад заўсёды рызыкоўна, але сённяшняя Беларусь — вельмі сумнеўны ўдзельнік «збірання земляў», у ашаламляльным кантрасце з Беларуссю дваццацігадовай даўніны.

**«Росбат» (Расія)**

Мінск не будзе блакаваць падпісанне дамовы аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС), запланаванае на 29 мая, заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. «Пытанні, якія нас хвалявалі, атрымалася зняць», — паведаміў ён. Праўда, сярод экспертаў поспехі Лукашэнкі станоўчай ацэнкі не выклікаюць. Эканоміка краіны ў рэцэсіі, вытворчасць падае, растуць цэны, грошы абясцэньваюцца, і гэты працэс не здольная спыніць нават падтрымка з золатавалютных рэзерваў. Крэдытнае падсілкоўванне пры адсутнасці рэформаў працуе толькі на ўтрыманне ўлады Лукашэнкам. Больш за тое, расце дзяржаўны і залежнасць ад Расіі.

**«Корреспондент» (Расія)**

Сумная доля ў перыяд сусветнага хакейнага першынства спасцігла мясцовых праваабаронцаў. Улады краіны, баючыся дыскрэдытацыі ў вачах заўзятараў, якія прыехалі на чэмпіянат, змясцілі самых палітычна нядобранадзейных у турмы. Усе сілы беларускіх уладаў сканцэнтраваны на тым, каб ніхто не змог сапсаваць лубачную карцінку шчаслівай і квітнеючай Беларусі. Праўда, як падкрэсліваюць у сваіх публікацыях многія замежныя журналісты, галоўны прынцып дзеяння беларускіх уладаў — забараняць і кантраляваць — усё ж сказваць не атрымоўваецца. Больш за тое, гэта перашкаджае якаснай працы. Гаворка ідзе пра шматлікія блокпосты пры ўваходзе ў арэны з амаль распранаennем, блакаваннем інтэрнэту ў будынку падчас прысутнасці там Аляксандра Лукашэнкі, забароне на фатаграфаванне першай асобы дзяржавы, выстаўленне дадатковага асвятлення і інш.

**«Независимая газета» (Расія)**

Пуцін праводзіць «узмоцненую апрацоўку прэзідэнтаў краін-сатэлітаў». Варта хаця б узгадаць нядаўняе праведзенне вучэнняў УС РФ з адпрацоўкай пытанняў прымянення ядзернай зброі пад асабістым кіраўніцтвам Пуціна, з запрашэннем прэзідэнтаў Беларусі, Казахстана, Кіргізіі і Таджыкістана. Пры гэтым прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які раней не падтрымліваў агрэсію супраць Украіны, раптам па незразумелых прычынах рэзка змяніў рыторыку. Гэта змена пазіцыі дзіўным чынам супала з паведамленнем пра гатоўнасць Расіі даць Беларусі крэдыт на папаўненне золатавалютных рэзерваў у памеры 2 мільярды долараў.

**«Украинфо» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Як змагацца з зялёнымі чалавечкамі

Міністэрства абароны Польшчы заявіла, што да канца года распрацуе план рэформы вайсковага рэзерву. У кожным з 16 ваяводстваў краіны будзе створана дабраахвотная парамілітарная частка. Яе статус чымсьці падобны на статус Нацыянальнай гвардыі ў ЗША. Частка фармуецца з прадстаўнікоў грамадзянскага насельніцтва, якое прайшло вайсковую падрыхтоўку. Усяго плануецца запісаць у такія часткі каля 20 тысяч чалавек. Аўтары рэформы не хаваюць, што галоўная задача польскіх нацыянальных гвардзейцаў будзе заключацца ў тым, каб у выпадку канфлікту з Расіяй не дапусціць пранікнення ў польскі тыл расійскіх дыверсантаў, правядзення акцый сабатажу, захопу будынкаў і г.д. Паўтарэнне крымскага сцэнару ў Польшчы, калі меркаваць па каментарах на польскіх інтэрнэт-форумах, шмат каму падаўся маларэальным. На думку шматлікіх блогераў, мы маем справу з паранойяй, якую раздувае Мінабароны, каб выбіць дадатковыя бюджэтныя сродкі для афіцэраў на пенсіі, якія, хутчэй за ўсё, і будуць рыхтаваць гвардзейцаў. Сапраўды, цяжка ўявіць сабе, што «зялёныя чалавечкі» могуць дзейнічаць у польскіх рэаліях. Для іншых каментатараў рэформа актуальная, паколькі, па іх словах, польскае войска сапраўды не гатовае да сур'ёзнай канфрантацыі з Расіяй.

**Паводле польскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Казахі будуць гунамі

Па словах пасла Венгрыі ў Астане, казахскі парламент вырашыў накіраваць сваіх прадстаўнікоў у Венгрыю на Курултай цюркскай і гунскай свядомасці. Гэта культурны фестываль, які адбываецца раз на два гады і прысвечаны культурнай традыцыі венграў. Як вядома, венгры — адзіны качавы народ Еўропы, які прыйшоў сюды ў X стагоддзі з уральскіх стэпаў. Апошняе дазваляе шмат каму лічыць казахаў і венграў братамі. Акрамя ўсяго, свята Курултай мае палітычны прысмак. Яго падтрымліваюць венгерскія праварадыкалы, якія лічаць, што хрысціянізацыя венграў-паганцаў была гістарычнай памылкай. Цяжка сказаць, нашто казахскаму ўраду дасылаць амаль афіцыйную дэлегацыю на такое спрэчнае фальклорнае мерапрыемства. Магчыма, казахская эліта працягвае пошук новай формулы казахскага нацыяналізму. Раней некаторыя афіцыйныя гісторыкі прапаноўвалі Назарбаеву перайменаваць Казахстан у Туран — міфічную стэпавую дзяржаву, якая, быццам, існавала ў старажытнасці. Дарэчы, венгерскія ўльтраправыя таксама падзяляюць тэорыю пра Туран і туранцаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### МАЛДОВА. Скандал з-за румынскага патрыятызму

У Малдове выбухнуў скандал, звязаны з кампанія «Ганарымся, што мы румыны», якая арганізаваная кіруючай партыяй сацыял-дэмакратаў і прапагандуе партыю за кошт спасылак да матываў румынскага патрыятызму. Непасрэдна кампанія прадстаўляе сабою візуальную агітацыю ў выглядзе тых жа выяваў на білбордах. Гэты выявы ўяўляюць сцэны з жыцця вельмі гарманічнага еўрапейскага грамадства: напрыклад, сямейная пара набывае ў супермаркеце тавары, ні ў чым сабе не адмаўляючы, або камбайн, які збірае ўраджай, — і надпіс: «Ганарымся, што мы румыны». Апаненты сацыял-дэмакратаў




зрабілі аналіз тых выяваў і прыйшлі да высновы, што ўсе яны часткова скрадзены з беларускіх афіцыйных сайтаў, на якіх распавядаюць, як добра жыць у квітнеючай Беларусі. Арганізатары «Ганарымся, што мы румыны», у сваю чаргу, заявілі, што карыстаюцца выключна арыгінальнымі здымкамі, якія былі зробленыя ў Румыніі, што яшчэ больш выклікала недавер да піяру. Іншыя кажуць, што аўтар здымкаў для кампаніі не так важны. Галоўнае — канцэпт паслання, які нясуць выявы.

**Паводле румынскай прэсы**

# Мадура рана ці позна будзе вымушаны сысці

Алег НОВІКАЎ



**Гарачай кропкай на мапе свету застаецца Венесуэла, дзе ўжо паўгода трываюць моцныя вулічныя пратэсты супраць рэжыму прэзідэнта Нікаласа Мадуры. Сваімі поглядамі на сітуацыю ў Венесуэле з чытачамі НЧ дзеліцца Анхель Луга, актывіст венесуэльскага апазіцыйнага Палітычнага руху вольных грамадзян (VENTE).**

***— У чым, на вашу думку, прычына такога моцнага выбуху незадаволення венесуэльцаў?***

— Спачатку я хацеў бы адзначыць, што ў нас вельмі моцная дэмакратычная традыцыя. У мінулым стагоддзі Венесуэла не ведала дыктатуры цэлых 40 год, што было абсалютным рэкордам для краін Лацінскай Амерыкі. За гэты час некалькі разоў улада мірна перадавалася да тых, хто перамог на выбарах. Лічыцца, што гэтая традыцыя была абарваная ў 1999 годзе, калі да ўлады прыйшоў Чавес і ў краіне быў пабудаваны рэжым, які прынцыпова адмовіўся ад ідэй лібералізму і плюралізму. Пасля смерці Чавеса мела месца спроба канцэнтрацыі ўсіх галінаў жыцця грамадства ў руках улады, што і выклікала пратэст. Гэтаму садзейнічаў і рост дэфіцыту асноўных прадуктаў. Нават часам нельга было набыць хлеб.

***— Аднак у вашай краіне, у адрозненні да той жа Беларусі, існуюць вольныя выбары. Губернатарамі шэрагу штатаў, наколькі я ведаю, з'яўляюцца прадстаўнікі апазіцыйнай кааліцыі. Кааліцыя, якая называецца «Стол адзінства», мае прадстаўніцтва ў парламенце.***

— На самай справе, гэта цяжка назваць выбарамі, паколькі, паводле цяперашніх законаў, арганізацыя галасавання і падлік галасоў праводзяцца камісіямі, якія фармуе адно з міністэрстваў. Дырэктарам гэтага міністэрства з'яўляецца сябра ўрадавай Аб'яднанай сацыялістычнай партыі Венесуэлы (PSUV). У выніку працэс абсалютна не празрысты. Напрыклад, у якасці выбаршчыкаў запісваюць грамадзян, якія працуюць на Кубе. Часам лідараў апазіцыі пускаюць ва ўладу, аднак пры першых прыкметах таго, што гэта ўтрымлівае рызыку для сістэмы, іх намагаюцца пазбавіць пасадаў і мандатаў. Так, лідара парламенцкай фракцыі дэмакратаў не так даўно пасадзілі на два гады. У турме таксама знаходзяцца апазіцыйныя мэры двух гарадоў.

***— Шмат кажуць, што размах пратэстаў мае суб'ектыўны фактар. Размова пра тое, што Мадура аказаўся кепскім пераемнікам Чавеса.***

— Я згодны, што Мадуры далёка да Чавеса. Чавес быў геніяльным аратарам, а Мадура зрабіў кар'еру толькі таму, што быў вельмі лаяльны на адрас прэзідэнта, і акрамя таго яго кандыдатуру актыўна падтрымлівала Гавана. У выніку нават PSUV сёння расколатая на мадураўцаў і антымадураўцаў. Па маіх ацэнках, да «антымадураўцаў» належыць нават большасць прыхільнікаў Чавеса, аднак нашы пратэсты яны не падтрымліваюць. Але не трэба ва ўсім бачыць след Мадуры. Важную ролю для мабілізацыі гуляе таксама кубінскі фактар. Прыкладна дзве тысячы кубінскіх сілавікоў займаюць кіраўнічыя пасады ў венесуэльскай нацыянальнай гвардыі і паліцыі. Лічыцца, што менавіта яны адказныя за самыя брутальныя выпадкі, калі паліцыя збівала дэманстрантаў амаль да смерці.

***— У прэсе шмат пішуць пра мілітарны рух «Colectivo», які аб'ядноўвае радыкальных прыхільнікаў рэжыму. Што ўяўляюць сабой венесуэльскія «цітушкі»?***

— Агульнай характарыстыкі гэтаму руху няма. Упершыню пра «Colectivo» пачалі казаць, калі група маладых чавістаў напала на адзін з універсітэтаў, дзе студэнты рыхтавалі антыўрадавую акцыю. У выніку будынак універсітэта быў спалены, а адзін са студэнтаў забіты. Можна казаць, што мы мелі справу з юнакамі з нізкіх сацыяльных груп, якім нацыянальная гвардыя тайна дае зброю і накіроўвае іх дзеянні. Ёсць версія, што моладзь у турмах атрымлівае амністыю, калі пагаджаецца выконваць такую брудную працу. Натуральна, улада кажа, што гэта ўсё выключна нізавыя ініцыятывы. Так, сам Мадура лічыць, што «Colectivo» — гэта групы аматараў матацыклаў, якія дапамагаюць яму змагацца з фашыстамі.

***— Адзін з цікавых momantaў пратэстаў — тое, што іх фокус знаходзіцца не ў сталіцы, а ў правінцыі. З чым гэта звязана?***

— Відавочна, што Каракас заўсёды лепш кантралюецца ўрадам. Таму неяк так аказалася, што ў правінцыі выступы адразу падавіць не ўдалося, і яны пачалі набіраць размах. Акрамя таго, ёсць лакальныя прычыны. Напрыклад, тое, што найбольш буйныя сутычкі з паліцыяй адбываюцца ў штаце Тачыра (Táchira), звязваюць з тым, што тут жыве шмат індзейцаў. Яны больш ваяўнічыя па характару, і да таго ж заўсёды носяць з сабою сродкі самаабароны.

***— Што ўяўляе венесуэльская апазіцыя? Якая яе праграма?***

— Апазіцыя не кансалідаваная. Для студэнтаў, да якіх належыць наша групоўка, проста перамоваў недастаткова. Мы патрабуем правядзення датэрміновых выбараў парламента і прэзідэнта. Да гэтага, на нашу думку, мае быць прыняты новы выбарчы кодэкс, які б не дазволіў махінацыі. Акрамя таго, патрэбна рэформа медыя, каб разбурыць манаполію дзяржавы на СМІ. Без выканання гэтых пунктаў новыя выбары не маюць сэнсу. Парламенцкая апазіцыя больш сціплая і гатова пайсці на саступкі. На маю думку, сітуацыя падобная на тое, што цяпер назіраецца ў Беларусі і Расіі, дзе людзі таксама супрацьстаяць аўтарытарным рэжымам, аднак пры гэтым унутры апазіцыі заўсёды ёсць радыкалы і рэфарматары. У любым выпадку, Мадура будзе вымушаны рана ці позна сысці.

***— Нельга не задаць пытанне пра разгул крыміналу, які стаў сумнай візітоўкай Венесуэлы. Ці сапраўды на вуліцах так небяспечна?***

— Узровень злачынстваў вельмі высокі, што, дарэчы, стала адным з імпульсаў незадаволення. Напрыклад, сем маіх сяброў у свой час былі выкрадзеныя, каб пасля быць вызваленымі за выкуп. Штотыдзень у Каракасе забіваюць каля 75 чалавек. Прынамсі я нават да метро з дому — прыкладна 400 метраў — дабіраюся выключна на машыне.

***— Якая сітуацыя на рынку валюты? Наколькі вядома, з-за моцнай інфляцыі дзяржава зрабіла штучны курс долара, які існуе паралельна курсу на чорным рынку.***

— Праблемы з доступам да валюты не асабліва цікавіць людзей. Калі едзеш за мяжу, то можна ў спецыяльных дзяржаўных органах папрасіць прадаць табе па афіцыйным курсе дастаткова вялікую суму валюты. Праўда, трэба паказваць кучу папераў і абавязкова — білеты. Таму чорны рынак валюты існуе, аднак хутчэй ім карыстаюцца тыя, хто звязаны з нефармальнай эканомікай.

# Хто зменіць Барозу?

Алег НОВІКАЎ

**25 мая 350 мільёнаў еўрапейцаў будуць абіраць новы склад Еўрапейскага парламенту. «Новы Час» працягвае знаёміць чытачоў з ходам выбарчай кампаніі і яе асноўнымі ўдзельнікамі.**



**Застаецца спадзявацца, што цяперашняя рэформа абрання старшыні Еўракамісіі — першы крок у бок перагляду ролі Еўрапарламенту і фармату яе выканаўчых органаў**

Новаўвядзеннем цяперашніх выбараў у еўрапарламент ёсць тое, што фактычна грамадзяне ЕС абіраюць прэзідэнта Еўракамісіі. Раней гэтая кандыдатура ўзгаднялася за зачыненымі дзвярыма. Канклаў прэм'ераў краін ЕС шукаў найбольш кампрамісную фігуру. Цяпер вырашана, што кіраўніком Еўракамісіі аўтаматычна павінен быць лідар самай буйной парламенцкай групы ў Еўрапарламенце.

Неабходнасць такой меры звязаная з відавочным падзеннем інтарэсу электарату да выбараў у Еўрапарламент. Статыстыка сведчыць, што на апошніх выбарах у Еўрапарламент у 2009 годзе галасавала толькі 42 працэнты грамадзян краін ЕС. Гэта самы нізкі паказчык за ўсю гісторыю. Нагадаем, што ўпершыню Еўрапарламент абіралі ў 1979 годзе, і тады яўка склала 62 працэнты.

Сярод кандыдатаў галоўным фаварытам на пасаду пераемніка цяперашняга старшыні Еўракамісіі Жазэ Мануэля Барозу фігуруе Жан-Клод Юнкер ад кансерватыўнай Еўрапейскай народнай партыі (EPP). Юнкер, які дагэтуль паспеў папрацаваць прэм'ерам Люксембургу, паклаў у аснову сваёй праграмы тэму эканомікі. Ён прызнае, што эканоміка Еўропы перажывае цяжкія часы. Вывесці яе з крызісу можа выключна EPP — адзіная ў Еўропе палітычная сіла, здольная ўзяць на сябе адказнасць за непапулярныя рэформы. Гэтыя рэформы, паводле аўтараў праграмы EPP, заключаюцца ў тым, каб ствараць новыя сектары малога і сярэдняга бізнэсу і, адпаведна, новыя працоўныя месцы. Інструментам, які здольны даць штуршок эканамічнаму буму, ёсць спрыяльная для развіцця бізнэсу падатковая і бюджэтная палітыка.

Пасля знаёмства з праграмай EPP няцяжка здагадацца, што лагер кансерватараў адчувае канкурэнцыю з боку больш правых партый. Таму вялікая частка іх Маніфеста прысвечана неабходнасці барацьбы з іміграцыяй і крыміналам (любімыя тэмы праварадыкальных палітыкаў). Думаецца, з той жа прычыны ў праграме гаворыцца аб тым, што тэма пашырэння ЕС не стаіць у еўрапейскай павестцы дня. Праўда, у наступным абзацы Юнкер абяцае ў выпадку перамогі падтрымліваць працэсы дэмакратызацыі ва ўсіх краінах-суседзях ЕС.

За кошт рынкавых рэформаў збіраюцца вырашаць праблемы ЕС і лібералы, аб'яднаныя пад дахам Альянсу лібералаў і дэмакратаў за Еўропу. Яны лічаць, што Еўропа павінна фарсіраваць стварэнне адзінага еўрапейскага рынку за кошт ліквідацыі бар'ераў, якія перашкаджаюць руху капіталу, рабочай сілы і інтэлекту. Альянс прапануе як мага хутчэй рэалізаваць праект зоны вольнага гандлю ЕС і ЗША. Насуперак класічным лібералным антыэтатысцкім забабонам, кандыдат Альянсу лібералаў і дэмакратаў за Еўропу Гі Верхоўстадт выступае за частковы кантроль дзяржавы над фінансавым сектарам. Альянс лічыць, што банкі павінны праводзіць крэдытную палітыку, якая будзе стымуляваць стварэнне прадпрыемстваў, асабліва ў галіне тэлекамунікацый. Увогуле, лібералы абяцаюць зрабіць Еўропу лідарам у сферы высокіх тэхналогій. А таксама пралабіраваць закон аб тым, што кожны грамадзянін ЕС мае права на вольны і якасны інтэрнэт.

А вось сацыялісты і іх кандыдат Марцін Шульц лічаць, што еўрапейцам зараз патрэбна іншае ўніверсальнае права. Гэта права атрымліваць у кожнай краіне ЕС заробак, які будзе не ніжэй за зацверджаны Еўрапарламентам узровень. Шульц, які быў спікерам у Еўрапарламенце апошняй кадэнцыі, мяркуе, што менавіта сацыяльная салідарнасць здольная аб'яднаць Еўропу. Увогуле, пытанне гарантыі працы, асабліва для моладзі, і ёсць канькам выбарчай праграмы Еўрапейскай партыі сацыялістаў (EPS). Сацыялісты таксама выступаюць супраць дыктату наднацыянальных фінансавых інстытутаў і гатовыя пайсці нават на спецыяльны падатак на спекулятыўныя здзелкі.

Што тычыцца замежнай палітыкі, то гэтай тэме прысвечаны апошні пункт праграмы. Сацыялісты жадаюць, каб ЕС быў транслятарам ідэй міру і прагрэсу. Усходняя палітыка ЕС абмяжоўваецца словамі пра неабходнасць і далей развіваць праект Усходняе Партнёрства. Застаецца сказаць, што пакуль менавіта сацыялісты з'яўляюцца лідарамі выбарчай гонкі. Яны ж маюць большасць у Еўрапарламенце і зараз.

Самае забаўнае ва ўсёй цяперашняй кампаніі, тое, што прэм'еры краіны ЕС усё роўна пакінулі за сабой права самім прызначаць старшыню Еўракамісіі. І хаця ўсе палітыкі гучна кажуць, што будуць паважаць волю выбаршчыкаў, не выключана, што пераемнік Барозу зноў будзе абраны на пасядзелках 28 прэм'ераў. Сярод фаварытаў кулуарных выбараў фігуруюць дырэктар Міжнароднага валютнага фонду Крысцін Лагард, дацкі прэм'ер Хеле Торнінг-Сміт, яго ірландскі калега Энда Кені. Цікава, што некаторыя аўтарытэтныя эксперты выступаюць менавіта за такую схему абрання лідара ЕС. Яны лічаць, што функцыя старшыні Камісіі хутчэй быць нейтральным медыятарам паміж рознымі фракцыямі.

Між тым, за два тыдні да выбараў толькі 38 працэнтаў грамадзян краін ЕС сочаць за ходам кампаніі. А ў Польшчы толькі кожны пяты збіраецца ісці галасаваць 25 мая. Найбольшы электаральны энтузіязм зарэгістраваны ў Бельгіі (53 працэнты). Праўда, гэта можна часткова растлумачыць тым, што там ігнараванне выбараў, паводле мясцовага заканадаўства, цягне за сабой адміністратыўны штраф. Прычыны абыякавасці электарату розныя — ад росту еўраскептыцызму і слабага ведання ангельскай мовы, на якой ідуць дэбаты кандыдатаў, да малацікавых фігур саміх кандыдатаў.

Аднак галоўная праблема — Еўрасаюз для шмат каго, нават для саміх еўрапалітыкаў, дасюль застаецца вельмі абстрактным і функцыянальна не зразумелым інстытутам. «Нас трымаюць тут за ідыётаў», — паскардзіўся на сітуацыю Даніэль Кон-Бендыт, сталы дэпутат Еўрапарламенту ад зялёных.

Застаецца спадзявацца, што цяперашняя рэформа абрання старшыні Еўракамісіі — першы крок у бок перагляду ролі Еўрапарламенту і фармату яе выканаўчых органаў. Дарэчы, адным з выхадаў прапануецца абранне главы Еўракамісіі сярод дзеючых еўрапейскіх прэм'ераў. Такія выбары, як сведчаць апытанні, карысталіся б большым інтарэсам, чым цяперашняя кампанія. Калі б падобнае галасаванне мела месца 25 мая, старшынёй Еўракамісіі стала б Ангела Меркель (51 працэнт). Другім бы прыйшоў кіраўнік брытанскага кабміну Дэвід Кэмеран (35 працэнтаў).

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Крысцін Табіра



Міністр юстыцыі Францыі падчас афіцыйнай імпрэзы, прысвечанай гадавіне адмены рабства, моўчкі праслухала французскі нацыянальны гімн. За гэта апазіцыя патрабавала адстаўкі чыноўніцы. Па словах апазіцыянераў, Марсельеза для французаў — гэта святое. У сваю чаргу, міністр кажа, што яна прамаўчала з-за формы выканання мелодыі, якая хутчэй нагадвала караоке. «Праслухванне гімну значыць стан рэфлексіі, а тое, што гучала, хутчэй нагадвала караоке», — напісала яна ў сацыяльных сетках. Гэта яшчэ больш раз'юшыла правых. Марын Ле Пэн, лідар партыі «Нацыянальны фронт», заявіла: «Табіра прадэманстравала сапраўдную прыроду ўраду сацыялістаў, які не паважае французскія сімвалы». Яшчэ далей пайшоў сябра права-цэнтрысцкай партыі «Саюз за народны рух», які лічыць, што міністр увогуле не ведае слоў Марсельезы. Абаронцы Крысцін у адказ нагадваюць, што яна — адзіная чарнаскурая француженка сярод міністраў, і спекуляцыі вакол Марсельезы — проста помста за тое, што яна не белая. У дадатак, у Францыі няма закону, які патрабуе ад чыноўнікаў спяваць гімн. Увогуле, гэта не першы палітычны скандалы вакол Марсельезы. Напрыканцы 1970-х гадоў Саюз ветэранаў збіраўся забіць папулярнага спевака Сержа Гінзбура за тое, што ён спеў Марсельезу ў стылі рэгі.

### Сяргей Цігіпка



Кандыдат у прэзідэнты Украіны, які раней быў сябрам Партыі рэгіёнаў, нечакана выйшаў на другое месца ў прэзідэнцкай гонцы. Паводле апытанняў, ён з 9 працэнтамі папулярнасці абышоў Юлію Цімашэнка (8 працэнтаў). Наперадзе пакуль Пётр Парашэнка з 40 працэнтамі. Тое, што рэйтынг Цігіпкі вырас, тлумачаць яго пацыфісцкай рыторыкай (палітык заклікае шукаць дыялог з Данбасам) і ўсходнім паходжаннем. Паколькі Цімашэнка і Парашэнка арыентуюцца на электарат Захаду і Цэнтру, на Усходзе і Поўдні назіраецца запыт на свайго прадстаўніка. Палітолагі лічаць, што ў Цігіпкі ёсць шанец выйсці ў другі тур, што стане нараджэннем новай палітычнай сілы гэтага рэгіёну. Аднак поспехі Цігіпкі могуць мець і больш глабальныя наступствы. Як толькі былі апублікаваныя згаданыя рэйтынгі, Цімашэнка пачала піяр-вайну супраць «шакаладнага караля». У інтэрнэце ўжо выкладзеныя «дакументы» амерыканскіх дыпламатаў аб нядзельнасці Парашэнкі як прэзідэнта змагацца супраць карупцыі, пра яго эканамічныя інтарэсы ў Расіі і г.д. А Парашэнка ўжо паабяцаў у выпадку перамогі адразу распусціць парламент, дзе пакуль партыя Юліі Цімашэнка «Батькіўщина» мае большасць.

### Януш Корвін-Міке



Паводле апошніх апытанняў, польская ліберальна-кансерватыўная партыя «Кангрэс новых правых» (KNP), лідарам якой з'яўляецца Корвін-Міке, нечакана для ўсіх стала чацвёртай па папулярнасці партыяй у Польшчы. Наперадзе яе толькі левыя дэмакраты, «Права і справядлівасць» і «Грамадзянская платформа». Узлёт KNP абсалютна нечаканы, паколькі фармацыя, якая выступае за экспарт амерыканскай мадэлі, заўсёды лічылася маргінальнай (на выбарах у 2011 годзе за яе галасавалі толькі 1 працэнт). Сам Корвін-Міке — удзельнік усіх прэзідэнцкіх выбараў у найноўшай гісторыі Польшчы — лепшы паказчык прадэманстраваў у 1995 годзе, калі за яго прагаласавала 2,4%. Цікавасць палякаў да партыі Корвіна-Міке часткова можна растлумачыць выбарамі ў Еўрапарламент. Паколькі еўрапейскія заканадаўчыя органы мала ўплываюць на польскую ўнутраную палітыку, публіка дазваляе сабе паэксперыментаваць. Экстравагантны Януш Корвін-Міке, які кажа, што Еўрасаюз — гэта новая форма камунізму, вельмі добры выбар для правакацый. Смех смехам, аднак польскі палітыкум баіцца, што сем мандатаў у Еўрапарламенце (столькі зараз можа атрымаць KNP) дадуць шанец KNP на праход у Сейм на бліжэйшых выбарах і, магчыма, на ўдзел у фармаванні ўраду.

# Партрэт Тамаша Зана: рыцар сваёй зямлі

Аляксей ХАДЫКА

**Пайшоў другі месяц працы ў Нацыянальным мастацкім музеі выставы «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» — праекта, ініцыяванага «Белгазпрамбанкам» у супрацоўніцтве з вядучымі музейнымі ўстановамі Беларусі. Як мы і абяцалі, НЧ вяртаецца да гэтай цікавай экспазіцыі, каб аддаць належнае найбольш значным экспанатам. Першае месца сярод іх займае «Партрэт Тамаша Зана» пэндзля Валенція Ваньковіча, набыты ў карпаратыўную калекцыю банка ў прыватнага расійскага калекцыянера ў 2013 годзе. Твор выключны па некалькіх прычынах.**



**Тамаш Зан. Малюнак XIX ст.**

Карціна — адзінае арыгінальнае палатно лепшага беларускага мастака-рамантыка ў нашай краіне. З другога боку, яна — найбольш удалы партрэт Зана, літаратара і даследчыка, лідара студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў у Віленскім універсітэце 1810–1820-х гадоў, сябра Адама Міцкевіча і Яна Чачота, і пачынальніка нацыянальнай хвалі ў літаратурным рамантызме на беларускіх землях. Цікавае супадзенне — партрэт Зана з'явіўся на публіцы роўна напярэдадні 80-годдзя Кастуся Цвіркі — заснавальніка серыі «Беларускі кнігазбор», у якой у 1998 годзе выйшаў зборнік «Філаматы і філарэты», дзе ў перакладах самога Цвіркі і ягоным жа артыкуле грунтоўна прадстаўленая творчасць Тамаша Зана.

## Філаматы і філарэты

І Тамаш Зан (1796–1855), і Валянцін Ваньковіч (1800–1842) адносіліся да пакалення, якое нарадзілася пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай (1795), калі беларускія землі канчаткова і цалкам трапілі пад расійскую ўладу. Абодва падзялялі мары пра вызваленне радзімы, і, хаця рэвалюцыянерамі-практыкамі не былі, грамадзянскую пазіцыю яскрава выявілі ў сваёй творчасці.

Тамаш Зан, найбліжэйшы паплечнік Адама Міцкевіча ў віленскім студэнцкім руху 1810-х гадоў, разам з вялікім паэтам зрабіўся ў кастрычніку 1817 года заснавальнікам (з пасадай сакратара) таварыства філаматаў («тых, хто імкнецца да ведаў»).

Канспіратыўнае згуртаванне студэнтаў прызначалася для «паглыблення адукацыі, творчага ўдасканалення і грамадскай працы для дабра заняволенай Айчыны» (К. Цвірка). Планы ў філаматаў былі глабальныя: ад статыстычнага вывучэння краіны (меркаваную дзеля гэтага калектыўную працу «Геаграфічнае апісанне...» яны выканалі толькі фрагментарна), да нацыянальнай адукацыі праз стварэнне школьных падручнікаў і галіновых энцыклапедый. Рыхтавалася выданне ўласнага літаратурна-асветніцкага штогадовіка «Геба», але ў выніку ўжо вядомыя паэты-філаматы Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Ануфры Петрашкевіч змяшчалі творы ў іншых віленскіх перыёдыках.

Імкнучыся пашырыць дзейнасць, філаматы паступова стварылі больш адкрытыя таварыствы — Саюз сяброў (1819), Таварыства прамяністых (1820, паводле жартаўлівай тэорыі кожны добразычлівы маральны чалавек выпраменьваў дабратворнае для іншых святло), ачоленае «архіпрамяністым» Занам, і галіновыя саюзы. Тамаш Зан, навучэнец фізіка-матэматычнага факультэта (1815–1820), стаў на чале Саюза айчынных натуралістаў.

Пасля роспуску па загадзе рэктара ўніверсітэта Сымона Малеўскага «прамяністых» (універсітэцкае кіраўніцтва асцерагалася нефармальнай вучнёўскай актыўнасці), якіх налічвалася каля 200 чалавек, Зан узначаліў створанае замест яго таемнае Таварыства філарэтаў («аматараў дабрачыннасці», 1820–1823). Зразумела, што патрыятычныя згуртаванні моладзі ліквідоўваліся расійскімі ўладамі адразу, як факт іх існавання рабіўся вядомым.

## За вас прыняць пакуты

Нарэшце, чарга дайшла да філаматаў і філарэтаў. 3 мая 1823 года вучань пятага класа Віленскай гімназіі Міхал Плятэр напісаў на дошцы «Няхай жыве Канстытуцыя 3 мая!», прыгадваючы гадавіну апошняй Канстытуцыі незалежнай Рэчы Паспалітай 1793 года. І вось ужо распачалося следства, і сябраў арганізацый выдаў, спалоха968 затрыманнем, філарэт Ян Янкоўскі. У агульны спіс падазроных трапіла 166 чалавек, 135 было дапытана, значная частка арыштавана, у тым ліку Міцкевіч, Зан, Чачот, Ігнат Дамейка, Міхал Рукевіч, Антоні Адынец, Аляксандр Ходзька...



**Валянцін Ваньковіч. Партрэт Тамаша Зана. 1830-я гг.**

Тамаш Зан узяў асноўную віну на сябе, гэта многім змяншыла цяжкасць прыгавору. Але ў выніку, па выраку камісіі ў складзе міністра асветы Шышкова, генерала Аракчэева і сенатара Навасільцыва (зацверджанага асабіста імператарам 14 жніўня 1824 года), «назаўсёды» з Літвы ў аддаленыя губерні Расіі выслалі 20 чалавек. Пакаранне зрабілася для Зана момантам славы. Адам Міцкевіч у III частцы знакамітай паэмы «Дзяды» абяссмерціў Тамаша пад яго ўласным імем, уклаўшы ў вусны літаратурнага героя словы:

Я вамі кіраваў, каб збыць нявол і путы,
І абавязак мой — за вас прыняць пакуты.

У спіс пацярпелых Валенці Ваньковіч, студэнт аддзялення літаратуры і прыгожых мастацтваў (у 1818–1824) і навучэнец жывапісца Ян Рустэм не трапілі. Сябруючы з многімі філаматамі і філарэтамі — ужо ва ўніверсітэце ён партрэтаваў Адама Міцкевіча і Тамаша Зана, Францішка Малеўскага і Антона Адынца, Эдварда Ромера і Караля Ліпіньскага, Юліяна Корсака і Анджэя Тавяньскага — ён, відаць, фармальна не ўваходзіў у таемныя таварыствы.

Шляхі ссыльнага літаратара і мастака разышліся: у 1824 годзе Зана этапавалі ў Арэнбург, а Ваньковіч па накіраванні ўніверсітэта ў лютым 1825 года прыбыў у Пецярбург, каб працягнуць адукацыю ў Акадэміі мастацтваў.

## У палітычнай ссылцы

Лепшыя гады жыцця Тамаш Зан ахвяраваў чужой старонцы: у геалагічных экспедыцыях па Прыураллі ён адкрываў радовішчы нафты, меднай руды і золата, наведваў Кіргізію і Башкірыю, цікавіўся нацыянальным фальклорам іх жыхароў. У 1830 годзе па просьбе арэнбургскага губернатара Сухцелена запраектаваў і ўзначаліў мінералагічны музей, напісаўшы адпаведнае навуковае абгрунтаванне — «Аб мэтах і спосабах утрымання прапанаванага Музэюма ў Арэнбургу».

Толькі рэалізавацца ў нацыянальнай культуры лёс не дазволіў — у мінулым засталіся напісаныя па матывах беларускага фальклору паэмы, балады і камедыі, стварэнне музыкі (у тым ліку на беларускамоўныя вершы Яна Чачота), не здзейснілася выказаная ў арэнбургскім дзённіку, тытуляваным «З выгнання», жаданне пісаць літаратурныя творы па-беларуску. Затое даследчыцкія заслугі Зана, асабліва знаходжанне золата, улады адзначылі наданнем яму тытула калежскага сакратара, вялізнай грашовай прэміяй у 1500 рублёў, і, нарэшце, царскім дазволам ад 3 мая 1837 года (магічная дата!) пакінуць ссылку, і нават у перспектыве вярнуцца на радзіму.

## Мастак і яго герой

Тым часам кар'ера Валенція Ваньковіча развівалася ў Пецярбурзе. Мінуліся прызначаныя на навучанне два гады, мастак атрымаў вялікі і малы сярэбраныя медалі за малюнкі з натуры, і, імкнучыся ўдасканаліцца ў алейным жывапісе, папрасіў у кіраўніцтва з Вільні падвоіць тэрмін навучання, на што атрымаў дазвол.

У верасні 1827 года ён узнагароджаны Малым залатым медалём за кампазіцыю «Подзвіг маладога кіяўляніна пры асадзе печанегамі горада Кіева», а ў снежні прыступае да стварэння свайго шэдэўра — партрэта «Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг». І адначасова — як прыгадвае ў мемуарах лекар і пісьменнік Станіслаў Мараўскі, колішні сябра таварыстваў філаматаў і філарэтаў, што з 1827 года знаходзіўся ў Пецярбурзе і наведваў Міцкевіча і Ваньковіча, — стварае аднолькавы па памерах партрэт Аляксандра

Пушкіна. Абодва творы маляваліся для выставы ў Варшаве.

Знаёмствам з расійскім паэтам, што адбылося ў 1827-м, Ваньковіч абавязаны Міцкевічу. Увогуле, у піцерскіх колах Ваньковіча, і яшчэ двух беларускіх мастакоў, што знаходзіліся тады ў паўночнай сталіцы імперыі, жывапісца Іосіфа Аляшкевіча і графіка Аляксандра Арлоўскага, — сустракаюцца выдатныя прадстаўнікі расійскай культурнай эліты. Акрамя Пушкіна, гэта В. Жукоўскі, П. Вяземскі, А. Дэльвіг, І. Крылоў, браты К. і М. Палявыя, І. Кірэеўскі, Д. Веневіцінаў, Я. Баратынскі, кампазітар М. Глінка. Жукоўскі і Вяземскі таксама пазіравалі Ваньковічу.

У лютым 1829 года Ваньковіч ад'ехаў з Пецярбургу ў Мінск, дзе пасяліўся і працаваў у Малой Сляпянцы, часта наведваў свайго віленскага выкладчыка Яна Дамеля і мастака-аматара Чэслава Манюшку, бацьку славутага кампазітара Станіслава, непасрэдна ў Мінску. А сувязяў з Пецярбургам не губляў: 21 верасня 1832-га Савет Акадэміі мастацтваў прысудзіў мастаку за партрэты, «пісаныя з натуры», званне «прызначанага».

Вось і сустрэча Ваньковіча з яго даўнім сябрам па Віленскім універсітэце Тамашом Занам мусіла адбыцца ў Піцеры, дзе апошні ўладкаваўся на пасадзе бібліятэкара Горнай тэхнічнай школы па вяртанні з арэнбургскай ссылкі ў кастрычніку 1837 года. Так мяркуе пецярбургскі літаратуразнавец і мастацтвазнавец, доктар філалогіі Вадзім Старк. Тым больш да 1841 года Тамаша Зана «ў Літву» не пускалі: хаця антырасійскае паўстанне 1830–1831 гадоў было даўно задушана, настроі ў краі заставаліся неспакойнымі. Даніну павагі валадару думак патрыятычнай моладзі 1810–1820-х гадоў Тамашу Зану Ваньковіч паспеў аддаць да свайго канчатковага ад'езду на эміграцыю ў 1839-м.

Ваньковіча чакаў Дрэздэн, Берлін, а ў апошнія месяцы жыцця — Парыж, дзе мастак асталяваўся ў доме Адама Міцкевіча на вуліцы Д'Амстэрдам, каб памерці ад невылечнай хваробы на руках вялікага сябра-паэта ва ўласны 42-і дзень нараджэння — 12 мая 1842 года.

У 1830-я гады ў душы мастака панаваў неспакой і расчараванне, справакаваныя палітычнай рэакцыяй і задушэннем свабоды ў краі рэжымам Мікалая I (1 мая 1832 года скасоўваецца родны Віленскі ўніверсітэт, ідзе наступ на рэлігійныя свабоды). Характар яго, па сведчаннях сучаснікаў, псаваўся, ён рабіўся раздражняльным — але заставаўся выдатным партрэтыстам. І маляваў найперш блізкіх сабе асоб — можна прыгадаць вобраз філосафа Андрэя Тавяньскага. У гэтым шэрагу і адлюстраванне Тамаша Зана, якога Ваньковіч убачыў асобай моцнай, энергічнай, валявой — чалавекам, які вярнуўся з палітычнай ссылкі пераможцам.

## Вяртанне выгнанніка

Але прыезд Тамаша Зана на радзіму ў 1841 годзе, дзе ён уладкаваўся працаваць у Віленскім корпусе горных інжынераў, а пазней інспектарам дзяржаўных маёнткаў на Аршаншчыне, выдаўся сумным. Вера продкаў



Валянцін Ваньковіч. Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг. 1827–1828 г.



Брыгіда Зан (народжаная Свентажэцкая) з сынамі. Сядзіць — Абдон, стаяць (злева направа) — гувернёр, Віктарын і Клемент

па маці, грэка-каталіцтва, апынулася пад забаронай, большасць сяброў, такіх, як і ён, сын паўстанца часоў Касцюшкі, пераканaных патрыётаў свабоднай радзімы — у эміграцыі.

З блізкіх сяброў маладосці давялося спаткацца толькі з Янам Чачотам ды Марыляй Верашчакай-Путкамер, колішняй музай Адама Міцкевіча. Пэўны час, вандруючы па сядзібах сяброў і не маючы дазволу на сталае жыхарства ў Беларусі аж да 1846 года, ён скардзіўся ў лісце да Марылі: «Вязень над Віліяй, хворы над Нёманам, чыноўнік над Дзвіной... Няўжо ж, пакуль жыву, буду вечным выгнаннікам і пілігрымам?»

Толькі выйшаўшы ў адстаўку у 1845 годзе, у маёнтку Аборак на Маладзечаншчыне, у сям'і добрых знаёмых Дэдэркаў, Зан спаткаў асабістае шчасце. Абранніцай легендарнага філамата зрабілася малодшая ад яго на 23 гады Брыгіда Свентажэцкая, якая захаплялася рамантычнай літаратурай, творчасцю свайго сучасніка Адама Міцкевіча, і, натуральна, ведала і абагаўляла колішніх лідараў патрыятычнага студэнцкага руху. Шлюбам Тамаш і Брыгіда пабраліся ў 1846 годзе і пасяліліся ў спецыяльна набытым бацькамі Брыгіды маёнтку Кахачын у Аршанскім павеце.

Той самай Марылі Верашчацы-Путкамер Зан прызнаваўся: «Я ўбачыў у ёй самую Літву, якая вітае свайго сына з выгнання, убачыў у ёй анёла, які нагадвае мне маю маладосць...» Лёс падараваў Тамашу Зану позняе «восеньскае» шчасце, а Брыгіда — чатырох сыноў, расціць якіх давялося ўжо маладой жонцы. Тамаш Зан спачыў у Кахачыне 7 ліпеня 1855 года і пахаваны на каталіцкіх могілках у Смалянах.

## Вяртанне партрэта

«Партрэт Тамаша Зана» вярнулі ў Беларусь апантаныя адраджэннем беларускай культуры і музейнай справы калекцыянеры з «Белгазпрамбанку». Да першапачаткавага выгляду аднавілі перад выставай рэстаўратары Нацыянальнага мастацкага музея на чале з Аркадзем Шпунтом.

Давялося прыбраць слой таніраванага лаку, каб адкрыць аўтарскі жывапіс, наўмысна не кранаючы, як бы закансерваваўшы, месца з подпісам Ваньковіча. І цяпер перад гледачамі Тамаш Зан такі, якім быў 175 год таму. Прадстаўнік аднаго з першых пакаленняў, што ахвяравала сабой у паняволенай Беларусі за тое, каб наша краіна засталася сабою.

Прыгадаем радкі Зана з суцяшальнага ліста, напісанага да сяброў з турмы ў Вільні перад ссылкай на мяжы 1823–1824 гадоў. «Мы ўсе імкнемся служыць сваёй зямлі, але калі ў нас не будзе магчымасці прыносіць ёй карысць, мы не перастанем дабівацца гэтага праз усё сваё жыццё». Да адраджэння незалежнасці было яшчэ больш за паўтара стагоддзі.



Вялікі Двор Віленскага ўніверсітэта з касцёлам св. Яна. Альбом Вільчынскага. 1850 г.

# Толькі пра хакей

Аксана КОЛБ

**Спорт не можа быць па-за палітыкай. Па-за палітыкай наогул нічога не бывае. Не абмінула палітыка і 78-ы Чэмпіянат свету па хакеі з шайбай.**

32 актывісты прэвентыўна адправілі за краты, некалькі дзясяткаў папярэдзілі, каб не высоўваліся. Непажаданых для беларускіх уладаў еўрапейскіх палітыкаў не пусцілі ў краіну, нягледзячы на наяўнасць квіткоў на чэмпіянат. Любы напамін пра палітвязняў адразу карацца пераследам. Але іншага і не трэба было чакаць, усё ж чэмпіянат адбываецца ў сталіцы Беларусі. Але паспрабую паразважаць толькі пра хакей.

## Хуткасць і відовішчнасць

Хакей каманды паказваюць прыгожы, хуткасны, агрэсіўны і відовішчны. Амаль кожная сустрэча зборных дадае інтрыгі і прыносіць задавальненне.

Напрыклад, 11 мая італьянскія хакеісты нечакана для шматлікіх заўзятараў і букмекераў перамаглі каманду Францыі з лікам 2:1. Пасля безвыніковага першага перыяду падапечныя Тома Пакела спачатку адыгралі ў французаў шайбу (на 31-й хвіліне Ларан Міньe адкрыў лік матчу). А пасля, ужо ў трэцім перыядзе, італьянцы не толькі з годнасцю вытрымалі ціск французаў, але і за 58 секунд да канца матча Маркус Гандэр змог перайграць Крыстэбля Юэ і забіў пераможную шайбу.

А вось каманда Латвіі пасля перамогі над адным з фаварытаў — фінамі — пацярпела паразу ад хакеістаў Германіі з лікам 2:3. Пасля роўных па ліку двух першых перыядаў, у трэцім немцы забілі рашаючы гол, які латышы так і не адыгралі.

12 мая матч Швецыя — Чэхія парадаваў заўзятараў вострымі момантамі, хуткаснай гульнёй і булітамі. Менавіта па булітах шведскія хакеісты перамаглі чэхаў. А вось зборная Расіі даволі ўпэўнена перамагла зборную Фінляндыі.

13 мая яркім і інтрыгуючым быў матч Латвія — Казахстан. У нейкі момант нават шмат хто пачаў сумнявацца ў перамозе латышоў. Але ўсё ж гульня скончылася з лікам 5:4.

А вось гульня Швецыі і Нарвегіі, наадварот, нагадала не лепшыя традыцыі скандынаўскай гульні ад абароны.

14 мая нарэшце сваю першую перамогу атрымала каманда Швейцарыі над камандай Германіі (3:2). Пасля трох параз былым срэбраным прызёрам чэмпіянату свету было вельмі цяжка гуляць псіхалагічна. Толькі на 13-й хвіліне першага перыяду каманда Шона Сімпсана здолела забіць гол у вароты зборнай Германіі. А трэці перыяд наогул прайшоў безвынікова.

Не менш цікавымі і відовішчнымі былі матчы Расія — Казахстан (7:2), які праходзіў 14 мая.

## Дзіркі ў абароне

А што ж зборная Беларусі? Першы дзень чэмпіянату прынёс прыхільнікам каманды Беларусі, калі не расчараванне (мала хто разлічваў, што мы выйграем у амерыканцаў), дык смутак. Маглі ж прайграць не з такім лікам.

Самым выніковым быў другі перыяд, а дакладней, яго апошнія 5 хвілін. За тры з гэтых пяці хвілін беларусы здолелі прапусціць тры шайбы. І толькі за чатыры секунды да канца 2-га перыяду зборная Беларусі рэалізавала большасць і нарэшце забіла гол.

Пасля разгромнага заканчэння 2-га перыяду наша зборная літаральна развалілася, так і не здолела мабілізавацца, гуляла без відавочнага плану, сумбурна і нервова і, як следства, безвынікова.

Трэці перыяд стаў не менш драматычным. За 5 хвілін да заканчэння матча ў вароты Мезіна ўляцела пятая шайба. А ўсё з-за неабавязковага фолу Андрэя Касціцына, які пасля двухбаковага выдалення за бойку яшчэ раз пайшоў на відавочнае парушэнне і быў выдалены на 2 хвіліны. Наша зборная апынулася ў меншасці. Чым паспяхова і скарысталіся амерыканцы — 1:5.

Не паспелі беларусы пагуляць у поўным складзе, як выдалілі Дзянісава. Амерыканцы яшчэ раз рэалізавалі большасць і літаральна на апошніх хвілінах забілі нам шостую шайбу.

Трэба адзначыць высокі ўзровень галкіпера зборнай ЗША 40-гадовага Ціма Томаса і камбінацыйную гульню амерыканскіх нападаючых. Дарэчы, у зборнай ЗША 5 гульцоў 1994-га года нараджэння.

Што пайшло не так? Калі Мезін адгуляў не кепска (хаця з такім супернікам гэтага не дастаткова), то нашы абаронцы яўна не дацягвалі да патрэбнага ўзроўню. Яны літаральна спалі, іх выціскалі з зоны амерыканскія нападаючыя, а правы фланг абароны наогул праваліўся.

Нападаючыя не маглі падтрымліваць высокі тэмп гульні. Фактычна ім удалося да канца разыграць адзіную камбінацыю, якая і стала выніковай.

**Пасля перадачы Сяргея Касціцына Міхаіл Грабоўскі забіў чацвёртую пераможную шайбу. Матч Беларусь–Швейцарыя скончыўся з лікам**

**4:3**

## Праца над памылкамі

На наступны матч з камандай Казахстана беларусы прыйшлі з упэўненым жаданнем перамогі. На варотах замест Мезіна Хэнлан вырашыў паставіць Віталя Коваля — і не памыліўся.

Пачатак першага перыяду прынёс зборнай Беларусі шайбу ў вароты, якую забіў казахстанскі нападаючы Андрэй Гаўрылін. Было яшчэ некалькі небяспечных момантаў, але Коваль выратоўваў сітуацыю. У выніку на перапынак каманды пайшлі з лікам 0:1.

А вось на 2-й хвіліне другога перыяду беларуская зборная рэалізавала колькасную перавагу і зраўняла лік голам Сцяпанава. На 16-й хвіліне Стасенка пасля паса таго ж Сцяпанава забіў яшчэ адну шайбу. З лікам 2:1 каманды пайшлі на другі перапынак.

3-ці перыяд зноў парадаваў беларускіх заўзятараў. Праз хвіліну 25 секунд Сяргей Касціцын пасля перадачы Крывенкі забіў трэці гол у вароты зборнай Казахстана. Заўважу, што беларусы гулялі ў меншасці. І, нарэшце, Аляксей Калюжны за некалькі секунд да заканчэння матча забіў чацвёртую шайбу.

Дарэчы, ужо не першы раз беларусы забіваюць у меншасці. Магчыма, таму, што ў меншасці няма ні часу, ні гульцоў, каб давадзіць камбінацыю да ідэала. Менавіта з-за гэтага жадання ідэальнага часта наша каманда не рэалізоўвае відавочныя галявыя моманты. Гэта хвароба цягнецца ўжо не адно дзесяцігоддзе, і ёй хвараюць не толькі ў хакеі (такая ж сітуацыя была напрыканцы 1980-х у водным пол; ад гэтага ж цярпелі і футбалісты мінскага «Дынама» дамалафееўскіх часоў). Магчыма, гэта хвароба — следства не высокага майстэрства гульцоў, а значыць, вылечная.

## Яшчэ перамога

Чацвёрты дзень чэмпіянату зноў стаў для зборнай Беларусі паспяховым. Наша каманда перамагла швейцарцаў з лікам 4:3. Лепшым гульцом матчу прызнаны Сяргей Касціцын, які забіў дзве шайбы.

Матч пачаўся з актыўнасці швейцарцаў, якія літаральна з першых хвілін спрабавалі на трываласць Віталя Коваля. Вельмі шмат небяспечных момантаў стварыў ля нашых варот швейцарскі нападаючы Кевін Фіала, гулец «ХВ71 Йёншепінг» 1996-га года нараджэння. Але наш галкіпер быў на вышыні.

На 4-й хвіліне зборная Беларусі засталася ў меншасці, і яшчэ праз хвіліну Сяргей Касціцын забіў гол у вароты швейцарцаў. Але хуткая контратака зборнай Швейцарыі зрабіла лік у матчы 1:1. Гол забіў абаронца альпійскай каманды Янік Вэбэр.

За дзве з паловай хвіліны да канца першага перыяду Рэтэ Шапі забіў гол у вароты Коваля. А праз некалькі секунд у нашы вароты ледзь не закінулі яшчэ адну шайбу. І гэта пры тым, што мы былі ў большасці.

На перапынак каманды пайшлі з лікам 1:2. Магчыма, нашай камандзе не хапіла часу аднавіцца пасля гульні з Казахстанам. Даволі заўважнымі зноў былі памылкі абароны, асабліва на правым флангу. Швейцарцы выглядалі больш упэўнена.

Другі перыяд пачаўся з атак зборнай Беларусі. Нашы хакеісты спрабавалі рэалізаваць большасць: толькі тры гульца зборнай Швейцарыі былі на лёдзе. Не атрымалася. Не атрымалася забіць гол, і пакуль швейцарцаў было чацвёра.

Але пасля патасоўкі ля варотаў Швейцарыі адбылося двухбаковае выдаленне. І тут Андрэй Стась абыграў абаронцу Швейцарыі вышаў адзін на адзін з галкіперам Рэтэ Бэра і забіў шайбу. Лік стаў 2:2.

Трэці перыяд пачаўся са спроб узяцця беларускіх варотаў. Кожную змену швейцарцы рабілі кідкі па нашых варотах. У выніку, Эцьен Фруадэво, які толькі з'явіўся на лёдзе, разабраўся з двума беларускімі абаронцамі і забіў трэцюю шайбу Ковалю. Такім чынам, на 4-й хвіліне, пасля 5-га кідка ў нашы вароты, лік стаў 2:3.

Беларусы зрабілі некалькі няўдалых спробаў забіць шайбу ў адказ. Нарэшце на 10-й хвіліне пасля пасу Калюжнага, Міхаіл Грабоўскі, кінуўшы пад перакладзіну, забіў гол у вароты Рэтэ Бэра. Лік зноў зраўняўся — 3:3.

Пасля гэтага штохвілінна беларуская зборная прадпрымала спробы прабіць вароты швейцарцаў. За 4 хвіліны да канца матча быў выдалены Янік Вэбэр. Яшчэ 30 секунд — і за падножку выдалілі Дзмітрыя Корабава. Чатыры на чатыры. Нашы пайшлі ў атаку. Пасля перадачы Сяргея Касціцына Міхаіл Грабоўскі забіў чацвёртую пераможную шайбу — 4:3.

Калі ўзгадаць, што каманда Швейцарыі была другой на мінулым чэмпіянаце свету, а ў міжнародным рэйтынгу займае 7-е месца (зборная Беларусі на 15-м), то гэта перамога для беларусаў была вельмі важнай. Перш за ўсё, для псіхалагічнага настрою на іншыя гульні.

«Ганаруся сваімі хлопцамі. Яны паказалі характар і дамагліся выніку, хоць гуляць другі матч запар цяжка», — так гэту перамогу пракаментаваў галоўны трэнер беларускай зборнай Глен Хэнлан.

На жаль, на момант здачы нумара ў друк вынік матча Беларусь — Фінляндыя быў яшчэ не вядомы. Спадзяемся, наша каманда выглядала годна, незалежна ад ліку.

### Лічбы

- Умяшчальнасць «Чыжоўка-Арэны», на якой праходзяць адборачныя матчы групы А, — 9614.
- 11 мая на матчы Швецыя—Чэхія (4:3) прысутнічала 6018 чалавек. 9 мая на матчы Славакія—Чэхія (2:3) было 6900 гледачоў.
- Умяшчальнасць «Мінск-Арэны» — 15086 чалавек. 11 мая на матчы Беларусь — Казахстан (4:1) прысутнічала 13734 чалавек. Больш за ўсё заўзятараў наведала 12 мая матч Расія — ЗША (6:1) — 14124.
- На мінулым чэмпіянаце свету, які праходзіў адначасова ў Швецыі і Фінляндыі, у сярэднім арэны запаўняліся толькі на трацiну.
- Пры ўмяшчальнасці «Глобен-Арэны» (Швецыя, Стакгольм) у 13850 месцаў, максімальна яна была запоўнена на фінальным матчы Швецыя — Швейцарыя (1:5) — 12500. Менш за ўсё жадаючых падзівіцца на хакейныя баталіі прыйшло на матч Данія — Беларусь (3:2) — усяго 537.
- На «Хартвал-Арэне» (Фінляндыя Хельсінкі), якая ўмяшчае 13500 заўзятараў, больш за ўсё гледачоў было на адборачным матчы Фінляндыя— Латвія (3:2) — 12289. Менш за ўсё аматараў хакею наведала матч Латвія — Францыя (3:1) — толькі 2204.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 630

Падпісана да друку 16.05.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.